PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 41 (2213) Год XLIII Беласток 11 кастрычніка 1998 г. Цана 1,20 зл.

27 настаўнікаў з Нямеччыны падумалі, што ў Польшчы дыскрымінуюць беларусаў.

## Адключылі электраэнергію

**У панядзелак, 21 верасня 1998 года, у восем гадзін пяцьдзесят хвілін работнікі Энергетычнага прадпрыемства з Бельска-Падляшскага адключылі электраэнергію ад будынкаў II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Не было абедаў і была пагроза, што трэба будзе спыніць навучанне, але каля 16 гадзіны электраэнергія зноў была падключана.**

— За электраэнергію практычна не плацім рахункаў ад мая, а ад пачатку красавіка не аплачваем ніякіх рахункаў з бюджэту, выдзеленага Куратoрыяй, — кажа Яўген Сачко, дырэктар белліцэя. — Ужо ў сакавіку скончыліся ўсе грошы, прызначаныя Куратoрыяй на ўвесь год, прадбачаныя на ўтрыманне школы (без зарплатаў для працаўнікоў), якія састаўлялі суму 37 000 злотых. Зараз усе даўгі школы складаюць суму 65 000 зл., а ў гэтым ліку 13 000 зл. за электраэнергію. Калі ад красавіка аплачвалі нейкія рахункі, дык бралі грошы выпрацаваныя школай і ішлі яны на найбольш патрэбныя справы, напрыклад, гігіенічныя сродкі. Пра фінансавую сітуацыю школы мы інфармавалі Куратoрыю пастаянна, але заўсёды атрымлівалі адказ строга прытрымоўвацца ліміту і па той прычыне сабралася амаль 13 000 злотых задоўжанасці для Энергетычнага прадпрыемства. Ужо ад чэрвеня інфармавалі яны, што адключаць электраэнергію, аб чым ведалі і ў Куратoрыі. Таксама і на мінулым тыдні нас папярэджвалі, інфармуюць і зараз, што электраэнергія падключана толькі да канца верасня і да гэтага часу трэба сплаціць даўгі. Аднак сітуацыя школы не змянілася. З Куратoрыі далей адказваюць, што трэба трымацца ліміту, а дадатковых грошай не даюць. Трэба спадзявацца, што зноў адключаць электраэнергію і будзем вымушаны спыніць школьныя заняткі. Парады куратара, каб дырэктар сам пайшоў у адстаўку не прыдадуць школе грошай. 27 настаўнікаў з Нямеччыны, якія былі тады ў нас на ўроку, не маглі зразумець, чаму ў школе адключаюць электраэнергію і сказалі, што мусіць беларусаў у Польшчы дыскрымінуюць.

**Аляксей Мароз**



*Войцех Вайцюк і Янка Федарук.*

# „Serwus-Max” спявае па-беларуску

Калектыў „Serwus-Max” з Бельска-Падляшскага спявае беларускія песні так упэўнена, быццам бы іншых песень ніколі не спяваў.

У даны момант у калектыве іграюць два хлопцы: 31-гадовы Янка Федарук і яго 20-гадовы дваюрадны брат Войцех Вайцюк. Калі Янка заснаваў свой калектыў, было ў ім чатыры асобы. Аднак жа нешта ў іх „не іграла”. Янка вырашае ехаць у Бельгію, каб там зарабіць на добрую апаратуру. Працаваў „disc-jockey”ем у адной з дыскатэк. Было цяжка, але апаратуру прывёз. Музычныя інструменты, на якіх цяпер іграе калектыў (як, напрыклад, шматфункцыйныя арганы), настолькі дасканалыя, што дзвюх асоб у калектыве зусім дастаткова.

Абодва члены калектыву закончылі Музычную школу першай ступені ў Бельску-Падляшскім. Калі Войтку было пятнаццаць гадоў, ён упершыню зайграў (з Міркам Нявінскім) на забаве ў Кашалях. Янку пасля таго, як ён закончыў сярэднюю школу, узялі ў армію. Накіравалі яго ў Гдыню, а там якраз дзейнічаў вядомы вайсковы калектыў „Kirasjerzy”, якім апекавалася Крыстына Кузнярская, дырэктар пасялковага дома культуры ў Гданьску. Рэпетыцыя ішла за рэпетыцыяй, і ў 1988 годзе яны занялі першае месца на Агульнапольскім фестывалі эстрадных калектываў у Губіне.

І пасля арміі Янка Федарук не ўяўляў сабе жыцця без музыкі. Перад тым яшчэ, як заснаваў калектыў, супрацоўнічаў з Мікалаем Турковічам, што кіруе калектывам „Падляшскія зязюлі”.

Да сёння ў калектыве адчуваецца рука Сяргея Лукашука, вядомага бельскага музычнага інструктара, дырэктара Бельскага дома культуры, беларускага дзеяча. Менавіта ён перадаў калектыву шмат тэкстаў беларускіх песень і нот.

А многія свае песні хлопцы пераняслі ад бацькоў: „Ручнікі”, „Зорка ясная”, „Я прыйшоў, тэбэ нэма” і іншыя. Яблыка ад аблыні, як кажуць, падае недалёка. І дзякуй Богу, што не звяліся яшчэ такія дзеці. Часамі Янка (ён — вакаліст) сам піша творы, як, напрыклад, песня „Лета”.

Калектыў „Serwus-Max” выступае найчасцей у Бельску-Падляшскім і яго ваколіцах, дзе іграе на вяселлях, забавах, ёлках. Іграў таксама і ў Юхноўцы-Дольным, і ў Бандарах, і ў Бэлхатове, а нават у Жонсні, што ў Радамскім ваяводстве.

Хлопцы чэрпаюць вялікую радасць з музыкі і спеву, ды хочуць даваць канцэрты як мага часцей, хаця Янка Федарук ужо мае прыватную фірму, а Войтэк Вайцюк пачынае вучобу ў Вышэйшай школе публічнай адміністрацыі ў Беластоку.

Хацелі б яны выдаць касету з уласнымі запісамі, аднак пакуль што не знайшлася такая асоба ці ўстанова, звязаная з беларускім культурным жыццём, якая б занялася імі.

І можа здарыцца такое, што песні бацькоў у рэпертуары калектыву будуць забыты. А бавяцца пры іх цудоўна і моладзь, і дарослыя, ды і пажылыя людзі слухаюць іх са слязінкай у вачах.

Да дзела, беларускія дзеячы! Звярніце ўвагу на гэты амбітны калектыў!

**Ада Чачуга, Анна Артэмюк**

*Фота Анны Артэмюк*

## Браты па рублю

Мінск ветліва сустрэў нас штрафам за перавышэнне хуткасці на адной з самых добраўпарадкаваных магістраляў — тры мінімальныя зарплаты. 750 тысяч беларускіх рублёў хутка ператварыліся ў 250 тысяч і па ўзаемнай згодзе бакоў без усялякай квітанцыі перакачавалі з майго кашалька ў кішэнь ахоўніка парадку.

[*Беларусь у вачах масквіча* ☞ 2]

## Пасля пажару

Калі ў панядзелак пад вечар прыехаў я на месца пажару, на панадворку сустрэў старэйшую жанчыну і страшэнны вобраз пажарышча. Ад адной драўлянай клуні засталіся толькі кавалкі бляхі, ад іншых драўляных будынкаў — рэшткі сцен і мноства попелу. Ад мураваных будынкаў тырчэлі сцены, якія не разваліліся. У паветры нёсся непрыемны пах гару.

[*рэпартаж* ☞ 3]

## На беларускім памежжы

Прафесар Надзежда Галубкова з Менска праводзіла сацыялагічныя даследаванні на Беласточчыне. Прадметам яе зацікаўлення была нацыянальная свядомасць тутэйшых беларусаў. Савецкая метадалогія паўплывала на тое, што вынікі даследаванняў атрымаліся надта аптымістычнымі.

[*болей* ☞ 4]

## Вяртаем нашу спадчыну

Наш суродзіч Іпаліт Краскоўскі нарадзіўся каля 1840 г. у Дубічах-Царкоўных у сям'і святара. У канцы 1860-х гадоў пераехаў ён у Маскву на працу ў часопісе „Московские ведомости”. Напісаў там шэраг цікавых апавяданняў і аповесцяў, якія выйшлі ў двух тамах у 1884 г.

[*апавяданне І. Краскоўскага* ☞ 5]

## Ікона Пакровы Божай Маці ў Пухлах

У кожнай царкве заўсёды бывае некалькі ікон Божай Маці, але звычайна адна з іх ушаноўваецца ў большай ступені. У Пухлах найбольш шанаванай з'яўляецца ікона Пакровы ў кіёце, перад якой падчас багаслужбы гараць мноства свечак. Цудоўная ікона, памерамі 70 х 145 см, датуецца XVIII стагоддзем.

[*нарыс* ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

Беларусь у вачах масквіча

## Браты па рублю

**Вы, напэўна, ужо забылі, як гэта — жыць ва ўмовах, калі курс долара кожны дзень расце на некалькі працэнтаў, калі разам з ім растуць цэны, а тавары адпускаюцца па нормах у адны рукі. Я меў магчымасць прывыкнуць да гэтага за дзесяць дзён, праведзеных у Беларусі. Але я зрабіў глупства, не пакарыстаўшыся такой магчымасцю.**

**Белая магія**

У бацькоў, якія жывуць у Беларусі, я бываю рэдка — раз на два гады. Водпуск хочацца правесці на беразе мора, а не пад праліўнымі беларускімі даждджамі, якія могуць ісці па некалькі дзён запар. Але бацькоў трэба ўсё ж калісьці наведаць, і таму сёлетні водпуск я рашыў правесці ў Беларусі.

Загрузіўшы ў багажнік свайго „Фіата-Уно" чамаданы і пасадзіўшы ў салон жонку з дзецьмі, я выехаў у напрамку Мінска. Па меры набліжэння да месца назначэння айчынных машын на дарозе было штораз менш, а іншамарак — усё больш. Пасля перасячэння граніцы іх лічба перавысіла крытычны рубеж, і мне не заставалася нічога іншага, як толькі зрабіць вывад аб тым, што з часу майго апошняга наведання Беларусі жыць тут стала лепш і весялей. Канчаткова я ўпэўніўся ў гэтым пасля таго, як заправіўся ў раёне Оршы. Выцягнуўшы з кашалька 100 амерыканскіх долараў, я накіраваўся да абменнага пункта, што побач з запраўкай. Курс 68 тысяч беларускіх рублёў за долара не парадаваў мяне і не засмуціў. У рэшце рэшт, нават калі дзесьці па суседску за долар даюць 70 тысяч — страта невялікая. Да таго ж вакол — адно бульбянішча без канца і краю. Мяне не засмуціла нават тое, што касір паглядзеў з яўнай падазронасцю не на працягнутую купюру (ён нават забыў сунуць яе ў свой агрэгат, які даздваляе адрозніць вытворчасць Федэральнай рэзервнай сістэмы ад падробак з Малой Арнаўцкай), а на мяне. Долары ў мяне новыя — і так відаць, што не фальшывыя, супакоіў я сябе, а выгляд у мяне пасля шасцігадзіннага сядзення за рулём, напэўна, і на самай справе, дрэнны.

Раздумваючы аб тым, ці не прасцей было ехаць поездам, я падышоў да запраўкі. 95-ы бензін каштаваў 15 тысяч рублёў за літр (потым я заправіўся па 13,3 тысячы). Што ж гэта атрымоўваецца? Калі пералічыць на расійскія рублі, літр 95-га каштуе 1 рубель 55 капеек. Ці вы дзе-небудзь бачылі такое ў Расіі? Я не бачыў, і таму пачаў сумнявацца ці абгрунтавана я калісьці (гл. „Коммерсантъ-Деньги" № 10) аблаяў Аляксандра Лукашэнку за яго старшынска-калгасныя метады кіравання краінай. То-ж ён так клапоціцца пра аўтааматараў (на аб'яву: „92-і — па 20 літраў на рукі" я тады не звярнуў увагі, падумаўшы, што проста малавата прывезлі).

А які клопат пра пенсіянераў! Прыбыўшы на месца — горад Маладзечна, што ў 70 км ад Мінска, я пачаў распытваць пра складанасці жыцця бацькоў. Яно, канешне, цяжкое, развазвала мама, аднак дзяржава не пакінула пенсіянераў на волю лёсу. Канешне, непрыемна, калі цэны мяняюцца кожны тыдзень, але ж і пенсію індэксіруюць: за красавік выплацілі 1,5 млн. беларускіх рублёў, а за ліпень — ужо 2,1 млн. Дык вялікае дзякуй Аляксандру Рыгоравічу за нашу шчаслівую старасць. Так больш-менш закончыўся маналог мамы, якая за гэты час нарэзала прывезенай намі з Масквы сыравэнджанай каўбасы.

Наогул, першы дзень водпуску мне спадабаўся. Калі б не жонка, якая з размовы з цешчай увесь час выцягвала перш за ўсё інфармацыю пра беларускія цэны, дзяліла іх на курс долара да беларускага рубля і множыла пасля на курс да расійскага рубля. Яна заявіла, што заўтра мы едзем у Мінск рабіць макразакупкі тавараў, а калі ўдасца, то і паслуг. Уражанне ад першага дня было сапсавана.

**Чорнае бязмежжа**

Мінск ветліва сустрэў нас штрафам за перавышэнне хуткасці на адной з самых добраўпарадкаваных магістраляў (не ведаю, як яна называецца цяпер, але раней быў гэта праспект Машэрава) — тры мінімальныя зарплаты. Чамусьці не звярнуўшы ўвагі на маскоўскі нумар і спытаўшы, дзе працую (я, так як і ў Маскве, схлусіў, што на заводзе), даішнік пайшоў насустрач раз'язджаўшаму на іншамарцы працоўнаму (як я ўжо гаварыў, для Беларусі гэта звычайная справа). 750 тысяч беларускіх рублёў хутка ператварыліся ў 250 тысяч і па ўзаемнай згодзе бакоў без усялякай квітанцыі перакачавалі з майго кашалька ў кішэнь ахоўніка парадку. Што ж зробіш, яны ўсюды аднолькавыя!

А ўжо дарогі вельмі розныя. Асфальт усюды такі сам, такія ж калдобіны, але вакол чагосьці не хапае. Чаго менавіта, я спачатку не зразумеў, затое жонка з задавальненнем адзначыла: нічога не перашкаджае агляду і таму добра відаць усе магазіны.

Пачаліся макразакупкі: вельмі добрыя мужчынскія чаравікі — за 50-55 расійскіх рублёў, цудоўны дзіцячы камбінезон — за 60-65 рублёў, два пластмасавыя вядры з накрыўкамі (для падмаскоўнай дачы) — за 10 рублёў, адна міска для бялізны на 40 л (для маскоўскай кватэры) — за 15 рублёў, кілаграм шакаладных цукеркаў — за капейкі, тры банкі згушчанага малака — за грашакі і многа іншай дробязі, патрэбнай, з пункту гледжання жонкі, у гаспадарцы. Вельмі хутка грошай (беларускіх рублёў) засталося роўна столькі, каб дзе-небудзь перакусіць. Ды і трохгадовы сын ужо гадзіну намякаў, што пара, каб „покупать чикен макнаггетс в кисло-сладкий соус" (малыш поўнасцю задаволіўся баначкай „Гербера"), і пад яго ціскам у якасці прывала быў выбраны „Мак-аўто". І тут здарылася непраўгоднае.

У Маскве, калі раблю заказ у „Макаўто", я без клопату мяняю вялікі „Спрайт" на малы, маленькую бульбуфры на большую і наадварот, і кожны раз атрымоўваю ў адказ усмешку, якая сведчыць аб тым, што прадавец яўна даражыць сваім месцам. У Мінску ж мае спробы высветліць у сына, што можа заспакоіць яго апетыт у адсутнасці „макнагетсаў" і кісла-салодкага соусу, вераломна і не пераносячым пярэчання тонам былі спынены словамі: „Спачатку разбярыцеся, а потым падыходзьце да касы". Дакладна апісаць напаўніўшыя мяне пачуцці я не магу. З аняменя вывела мяне жонка: „Падазраю, што лепшага сервіса не знайсці — плаці". Я, канешне, заплаціў, але нават падараваныя дзецям сцяжкі ўжо не маглі вярнуць мне папярэдняга настрою.

Я зразумеў. Запаланіўшыя Беларусь іншамаркі — гэта невядома якія старыя „Фольксвагены" і „Аўдзі" з якой-небудзь нямецкай звалкі. На праспекце Машэрава нішто не перашкаджала агляду, таму што там практычна няма рэкламных стэндаў (яўнае сведчанне крайне нізкага плацежаздольнага попыту). Таннасць беларускага бензіну — вынік або зладзейства, або дурноты, або аднаго і другога (паколькі нафта для яго вырабу на 99,9% завозіцца з Расіі). Пастаянны рост пенсій, нібыта дакладна адпавядаючы тэмпам інфляцыі, — усяго міф беларускай статыстыкі. Мне засталося толькі знайсці адказ на пытанне, чаму так танна каштуюць беларускія тавары і чаму так непрыгожа паступілі ў „Мак-Доналдсе" На пошукі адказу былі патрачаны астатнія сем дзён водпуску.

*(заканчэнне ў наступным нумары)*

**Юрый Калашноў**

*„Коммерсантъ-Деньги", № 33, 12 верасня 1998 г.*

## Інфармацыйнае паведамленне

Кафедра тэорыі і методыкі фізічнай культуры і прафілактычна-аздараўленчай работы, кафедра тэорыі і гісторыі культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка сумесна з Беларускім навуковаметадычным цэнтрам гульні і цацкі праводзіць 15-16 красавіка 1999 года II Рэспубліканскую канферэнцыю па тэме: **„Традыцыйная фізічная культура беларусаў: гісторыя, тэорыя, практыка"**.

Мэта канферэнцыі — абагульненне вопыту выкарыстання традыцыйнай фізічнай культуры беларусаў у сістэме фізічнага выхавання, аздараўлення (валеалогія), абмеркаванне праблем, вызначэнне напрамкаў і перспектыў развіцця.

**Праблемнае поле канферэнцыі:**

— тэарэтычныя праблемы традыцыйнай фізічнай культуры беларусаў;

— традыцыйная фізічная культура беларусаў як вучэбная дысцыпліна: змест, праграмы, метадычнае забеспячэнне;

— выкарыстанне традыцыйнай фізічнай культуры беларусаў пры падрыхтоўцы спецыялістаў па фізічнай культуры;

— традыцыйная фізічная культура беларусаў у сістэме фізічнага выхавання насельніцтва Беларусі;

— гульні, забавы, ігрышча беларусаў;

— беларускія традыцыйныя метады аздараўлення;

— метады і формы ўкаранення элементаў традыцыйнай фізічнай культуры беларусаў у сучасную фізічную культуру Беларусі.

Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі, матэрыялы дакладаў і паведамленняў, праграмы курсаў з элементамі традыцыйнай фізічнай культуры беларусаў дасылаць па адрасу: **220 074, г. Мінск, п/с 180**, альбо па электроннай пошце — **E-mail: vittrakh@open.minsk.by**

Матэрыялы, атрыманыя да 1 студзеня 1999 года, будуць выдадзены ў зборніку матэрыялаў канферэнцыі.

Рабочыя мовы канферэнцыі — беларуская і руская.

Матэрыялы прымаюцца на беларускай ці рускай мовах. Аб'ём матэрыялаў — да 4 старонак фармата А4. Прадстаўляюцца ў двух экземплярах надрукаваныя праз 1,5 інтэрвала. Першы радок — прозвішча і ініцыялы аўтара, у дужках абрэвіятура арганізацыі. Праз радок назва матэрыялаў прапіснымі літарамі.

Матэрыялы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Тыя матэрыялы, якія пройдуць экспертную камісію, будуць надрукаваны.

Разам з матэрыяламі дасылаюцца звесткі аб удзельніку канферэнцыі. Яны павінны ўключаць наступныя даныя:

— прозвішча, імя, імя па бацьку,
— навуковая ступень, званне,
— пасада, якую займаецe,
— інстытут (арганізацыя),
— адрас дамашні,
— адрас службовы,
— тэлефон,
— тэма даклада.

Даведкі па тэлефоне:

Кафедра тэорыі методыкі фізічнай культуры і прафілактычна-аздараўленчай работы — (2)27-43-67 — Адамовіч Г. Э.

Кафедра тэорыі і гісторыі культуры — (2)68-79-62 — Шамак А. А.

Беларускі навукова-метадычны цэнтр гульні і цацкі — (2)32-47-01 — Аберган В. П.

## Вяртанне царкоўнай маёмасці

27 верасня г.г. у Віцебску беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сказаў, што дзяржава гатовая вярнуць усякую маёмасць, якую камуністы канфіскавалі Царкве ў 30-х і 40-х гадах (паводле Інтэрфакс). Удзельнічаючы ў рэлігійных урачыстасцях у Віцебску з нагоды візіту патрыярха маскоўскага і ўсяе Расіі Алексія II, беларускі прэзідэнт паабяцаў таксама дзяржаўную дапамогу пры адбудове праваслаўных цэркваў у Беларусі. „Праваслаўе гэта адзіны бар'ер, які засцерагае нас ад правалу ў пропасць" — сказаў А. Лукашэнка ў Полацку. У час свайго чатырохдзённага візіту ў Беларусі Алексій II папрасіў у А. Лукашэнкі падтрымкі дзеля „духоўнага адраджэння народу" ды адзначыў, што найвялікшай каштоўнасцю Беларусі з'яўляюцца „людзі, якія вельмі моцна кахаюць сваю краіну і сваю прэзідэнта".

*RFE/RL Newsline, 29.09.1998*

## Незадаволенасць сельскай гаспадаркай

27 верасня г.г. беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка неспадзявана наведаў калгасы ў Мінскай і Віцебскай абласцях (паводле ІТАР-ТАСС). Паводле прэзідэнцкай прэсавай службы быў ён „вельмі незадаволены ўзроўнем апрацоўкі зямлі і становішчам калгасаў ды іхніх паркаў машын". А. Лукашэнка загадаў ураду да 1 лістапада „навесці парадак у раёнах". Сказаў таксама, што прышле прадстаўнікоў урада, сваёй адміністрацыі ды падстаўнікоў абласных выканаўчых камітэтаў, якія будуць сачыць за ўжыццяўленнем гэтага парадку.

*RFE/RL Newsline, 28.09.1998*

# На таксі да зуброў

Турыстычны сезон у Белавежы ўжо скончыўся. Ён нічым спецыяльным не адрозніваўся ад папярэдніх. Да канца верасня г.г. Белавежу наведала звыш 75 тыс. турыстаў, у тым ліку каля 3,9 тыс. замежнікаў. Гэта больш-менш столькі, што і ў 1997 годзе.

Найвялікшым сёлетнім атракцыёнам было хіба ўвядзенне турыстычным бюро „Setec-Tour" магчымасці катацца па пушчы на акумулятарных вазках. Карысталіся імі перш за ўсё замежныя турысты, бо айчыннаму турысту наняць аўтакаляску было не па кішэні — гадзіннае катанне каштавала аж 25 злотых. Дабаўлю яшчэ, што такі вазок памяшчае 4-5 чалавек. Увогуле, згаданае бюро, хаця існуе ў мястэчку ўжо некалькі гадоў, толькі сёлета праявіла большую актыўнасць. Усё ж найбольшым поспехам, з ліку 8-мі мясцовых турбюро (у мінулым годзе канчаткова спыніў дзейнасць „Bison" Марка Крыды), карысталася бюро ПТТК. Актыўна дзейнічала таксама бюро Аляксея Грыгарука „Guliwer". Мала ад яго адставаў „Camping Grudki" Сцяпана Байко. Той апошні пераняў ад спадара Чурылы гасцініцу „Knieja" і вядзе яе зараз пад назвай „Gawra". Яму таксама падлягае палаткавае поле ў Грудках, а сам Сцяпан Байко актыўна дзейнічае як экскурсавод.

Шмат турыстаў наракала сёлета, так як і ў папярэдніх гадах, на недахоп даведнікаў аб Белавежскай пушчы. Нягледзячы на абяцанні, дагэтуль ні адзін не паявіўся. Калі гэтую ненармальную з'яву можна яшчэ растлумачыць айчынным турыстам, то ў ніякім выпадку яе не разумеюць замежныя. Чужынцу проста ў галаве не змяшчаецца, што такі славуты ва ўсім свеце прыродазнаўчы аб'ект не мае аснаўных публікацый на сваю тэму! На шчасце, у пастаянным продажы знаходзіліся карты пушчы, паштоўкі, відэакасеты і альбом „Пульс першабытнай пушчы". Прадаваліся нават, шкада толькі што коратка, шапачкі і майкі з белавежскімі матывамі і надпісамі.

Наракалі турысты таксама на цяжкі даезд у паказны запаведнік зуброў. Дарога, якая адбягае ад шашы ў запаведнік — гравійная і на ёй шмат выбоінаў. Ніхто праз увесь сезон не паклапаціўся, каб іх засыпаць. Крыху перашкаджалі наведвальнікам раскопкі на вуліцах ген. А. Вашкевіча і Застава, распачатыя ўлетку ў сувязі з пракладкай каналізацыі. Асабліва давалася ў знакі звужэнне вуліцы Застава, праз якую вядзе шлях у Старую Белавежу, дзе палянца турыстычныя кастры.

У першай палове года выступілі складанасці з адпраўкай паштовых пасылак. Пошта, у сувязі з генеральным рамонтам і мадэрнізацыяй сваіх памяшканняў, працавала ў іншым, надта нявыгадным будынку. Але цяпер яна зноў на сваім пастаянным месцы, якое выглядае вельмі шыкоўна. Пры нагодзе пошта атрымала новы тратуар перад будынкам. Падобны тратуар быў пракладзены на падыходах з вуліцы ў царкву і ад царквы ў прыхадскі дом. Той апошні ў сваю чаргу таксама перайшоў генеральны рамонт.

Нейкай неспадзяванкай для турыстаў стала павышэнне з 1 жніўня г.г. цэнаў на білеты ў найважнейшыя белавежскія наведвальныя аб'екты. Звычайны білет у музей і паказны запаведнік зуброў каштуе зараз 3 зл., у запаведнік прыроды — 4 зл. Льготныя білеты ва ўсе названыя аб'екты каштуюць 2 зл.

І яшчэ адна навінка! З пачаткам года ў Белавежы пачало курсіраваць прыватнае таксі Пятра Яховіча, у рамках цывільнай суполкі „Forest". Некаторыя турысты карыстаюцца гэтым таксі, калі не маюць чым дабрацца ў паказны запаведнік зуброў. Тут трэба паясніць, што ў гадзіны наведвання таго запаведніка аўтобусы на прамым шляху Белавежа — Гайнаўка не курсіруюць.

**Пётр Байко**

# Пасля пажару

13 верасня г.г., у нядзелю, у Дарацінцы, што каля Нарвы, успыхнуў вялікі пажар, у час якога згарэла шэсць гаспадарчых будынкаў з некаторай жывёлай, сельскагаспадарчымі машынамі, збожжам і іншым кормам, шопкі з дровамі і ўсялякая дробязь патрэбная ў гаспадарцы.

Калі ў панядзелак пад вечар прыехаў я на месца пажару, на панадворку сустрэў старэйшую жанчыну і страшэнны вобраз пажарышча. Ад адной драўлянай клуні засталіся толькі кавалкі бляхі, ад іншых драўляных будынкаў — рэшткі сцен і мноства попелу. Ад мураваных будынкаў тырчэлі сцены, якія не разваліліся. З купінаў яшчэ дымела і трэба было тыя месцы паліваць і разгортваць. У паветры нёсся непрыемны пах гару.

— Калі я ўчула, што на вуліцы нехта крычыць пра пажар, адразу выбегла на панадворак і ўбачыла, што пылае клуня суседзяў і нашы хлявы, — пачынае расказваць са слязамі ў вачах Вольга Граматовіч, у якой згарэла найбольш будынкаў і маёмасці. — Пачала я бегчы пад хлявы, але агонь ужо пераскакваў ад суседзяў і толькі пачула, як пячэ ў ногі. Разам з мужам паспрабавалі мы нешта выцягваць, але агонь ужо не даваў. Пажар успыхнуў пасля абеду, ды коней і кароў не было дома. Паспелі мы яшчэ выпусціць вепрукоў, а цяля і куры ўжо згарэлі.

З расказаў вяскоўцаў даведаўся я, што пажар пачаўся ў клуні суседзяў Граматовічаў недзе каля дзвюх гадзін пасля абеду. Зараз паведамілі пажарнікаў, але вецер якраз быў такі вялікі, што адразу агонь перакінуўся на хлявы Граматовічаў, шопку і клуню, а пасля яшчэ на хлявы Ляшчынскіх. Тушыць прыехала больш чым дзесяць пажарных машын і многа пажарнікаў. Дапамагаць тушыць пажар прыляцеў таксама і самалёт, але толькі недзе каля поўначы справіліся з агнём, а яшчэ да самай раніцы трэба было паліваць найбольш гарачыя месцы.

— У гэтым годзе такое прыгожае збожжа было і ўсё згарэла, а чым жа жывёлу карміць будзем? — хвалюецца спадарыня Вольга. — Згарэлі таксама і розныя машыны, матацыклы, бензаі мотапіла, млынок, усе дровы, ну і ўсе дробныя прылады, без якіх у гаспадарцы не абысціся. Добра, што хаця Бог параратаваў і засталася новая клуня, якая вось недалёка ад старой, — паказвае рукою гаспадыня. — Якраз у час пажару была ў нас мая сястра. Яна выбегла з іконай Божай Маці „Неапалімая купіна" і стала з ёю ў прамежку паміж старой і новай клуняй. Хаця вецер рваў агонь, новая клуня засталася цэлая і гэтым самым цэлымі засталіся таксама і клуні суседзяў (некалькі клуняў стаіць адна каля адной).

— Калі б не самалёт, намнога больш магло б згарэць, бо вецер быў вельмі вялікі, а агонь было відаць далёка за вёскай. Я якраз рыбу лавіць паехаў, — успамінае Мікола Снарскі, пенсіянер з Дарацінкі. — Пажарных машын і пажарнікаў шмат прымчалася.

— У нас згарэлі драўляны і мураваны хлявы і шопка. Што паспелі выцягнуць, дык выцягнулі, але і прылады, і дровы і многа іншага згарэла, — кажа Кацярына Ляшчынская, на будынках якой пажарнікі здолелі стрымаць агонь. — Гэты апошні хлеў так пылаў, што не ведаю колькі вады сюды вылілі.

— Страхоўка была толькі на некаторыя будынкі, але сёння ніхто і не прыязджаў, каб паглядзець. А ці адразу яны заплацяць? А збожжа і машыны, на гэта ж ніякай страхоўкі не было, — голасам поўным турботы гаворыць спадарыня Вольга. — Вось сёння раніцай сваяк воз дроў прывёз, а то і прапаліць у печы не было чым. Прывезлі таксама крыху мукі, бо і яна ўся згарэла. А колькі ж яшчэ працы, каб упарадкаваць усё гэта! Пілу і тую трэба пазычаць, бо няма чым і бярвенні разрэзаць. Найгорш будзе з жывёлаю, бо і паставіць яе не будзе куды, калі прыйдзе зіма і карміць не будзе чым, бо ўсё ж збожжа згарэла. Войт гміны абяцаў нейкую дапамогу, але колькі ж яны могуць даць!..

Даўней звычлівыя суседзі ездзілі па іншых вёсках і збіралі для пагарэльцаў збожжа, бульбу, сена. Можа і ў Дарацінцы знойдуцца людзі, якія паедуць па суседніх вёсках сабраць корм для жывёлы і дапамогуць гаротнікам перазімаваць дабытак.

**Аляксей Мароз**

# Першыя радныя

У Гайнаўскай гміне вядомы ўжо прозвішчы васьмі кандыдатаў, якія стануць раднымі без галасавання. У адпаведнасці з палажэннем аб выбарах, калі ў акрузе заяўлены толькі адзін кандыдат на раднага і на працягу пяці дадатковых дзён не будзе іншых прапаноў, дык гэты кандыдат застаецца радным без галасавання.

У Гайнаўскай гміне так склалася, што на васемнаццаць акругаў ажно ў васьмі балаціруюцца па адным кандыдаце, што абазначае іх неаспрэчную перамогу на выбарах. Кандыдаты-адзіночкі: Ян Скепка (Звадзецкае), Аляксандр Астапчук (Навакорніна), Ян Грыгарук (Дубічы-Асочныя), Аляксей Герасімюк (Махнатае), Рыгор Мароз (Старое Беразова), Аляксей Сельвясюк (Махнатае), Мікола Баравік (Арэшкава) і Уладзімір Галёнка (Пасечнікі-Вялікія) былі вылучаны Самаўрадавым выбарчым камітэтам.

**(ам-з)**

# Вескі з Музея

Ці існуе беларуская нацыянальная меншасць на тэрыторыі Польшчы?

Ці ёсць культурны цэнтр гэтай меншасці?

Ці ведаюць пра нас у свеце?

На ўсе гэтыя пытанні можна адказаць адназначна: „Так, так і так!" Ёсць меншасць беларуская, культурным цэнтрам якой з'яўляецца Музей беларускай культуры ў Гайнаўцы. Зацікаўленасць жа гэтым настолькі вялікая, што наш Музей наведваюць не толькі беларусы і палякі. Нацыянальнымі меншасцямі цікавяцца ў цэлым свеце, напрыклад, 16 верасня г.г. наш Музей наведалі госці з Кітая. Сярод іх быў Хэ Хонг Шанг, прафесар Пекінскага універсітэта, загадчык кафедры этнічных і нацыянальных меншасцей свету. Госці з Азіі былі вельмі зацікаўлены нашай культурай, этнаграфіяй, традыцыямі. Яны былі прыемна здзіўлены, што нягледзячы на ўсе фінансавыя цяжкасці, удаецца нам трымацца на высокім узроўні. Гасцей з Кітая суправаджаў праф. С. Шынкевіч з Інстытута археалогіі і этнаграфіі Польскай акадэміі навук у Варшаве.

Другім цікавым госцем быў студэнт з Англіі Алістар Рабагліяці, які наведаў наш Музей 19 верасня г.г. Піша ён доктарскую дысертацыю аб праблемах нацыянальных меншасцей у Польшчы. Ён таксама быў вельмі зацікаўлены тым, што мы робім. Гэтая зацікаўленасць была настолькі вялікай, што госць правёў у нашым Музеі цэлы дзень. Ён агледзеў залы, у якіх выстаўлены экспанаты, бібліятэку, а большасць часу правёў у размовах з працаўнікамі Музея. Цікавіла яго ўсё, што звязана з беларусамі, іх гісторыяй, культурай, этнаграфіяй. Але адзін дзень гэта вельмі мала, каб расказаць аб Беларусі і беларусах, таму Алістар Рабагліяці збіраецца зноў прыехаць да нас на цэлы тыдзень, каб пазнаць наш народ больш дакладна.

Цешыць нас тое, што хоць наш Музей яшчэ да канца не збудаваны, ён становіцца з кожным днём усё больш вядомы.

**Наталля Герасімюк, бібліятэкар Музея**

# Папраўка

У 38-м нумары „Нівы" ў тэксце п.з. „Візы і злачыннасць" былі допушчаны мною перайначанні інфармацый, дадзеных Генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалаем Крэчкам. Галоўнае з іх, што, быццам, апрача візы для ўезду ў Беларусь патрэбныя яшчэ ваўчэр, запрашэнне або тэлеграма. А гэта не так, бо **апрача візы ўезд у Беларусь можна здзейсніць на падставе ваўчэра, візы або тэлеграмы**! Таксама раней прыведзеныя цэны: 50 зл., 100 дол. ЗША і 100 зл. — гэта ранейшыя цэны візаў, сёння несапраўдныя.

Пазней прыведзены лік 565 грамадзян Беларусі — гэта не абвінавачаныя польскімі праваахоўнымі органамі, толькі пакрыўджаныя на тэрыторыі дзейнасці Консульства, якія звярталіся ў Консульства за дапамогай.

Генеральнаму консулу РБ у Беластоку, спадару Мікалаю Крэчку выказваю шчырую падзяку за крытычныя заўвагі, а ўсім, каго закранулі дапушчаныя мною перайначанні, каюся і прашу прабачэння.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Паразмаўляць з уладай

**Гутарка са старшынёю Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімірам НЯКЛЯЕВЫМ.**

**Міра Лукша:** *Пэўна адно з першых пытанняў, якія задаюцца цяпер Вам размоўцамі — пра візіт дэлегацыі Саюза пісьменнікаў у Прэзідэнта?*

**Уладзімір Някляеў:** І ты таксама?.. Неяк так ва ўсіх сродках масавай інфармацыі што дзяржаўных, што не, пракацілася як асноўная тэма, нібыта сустрэча з прэзідэнтам мела канчатковую мэту якраз прыдбаць нейкія матэрыяльныя сродкі. Я не скажу, што мне гэтага не хацелася, бо зараз Саюз знаходзіцца, зрэшты, як амаль усе, у складаным матэрыяльным становішчы. Галоўная мэта была ўсё ж не гэта. Пра грошы ніхто ніякай гаворкі не заводзіў. На мэце ставілася дасягнуць нейкае паразуменне ў тым, чаго хоча ўлада; ці таго ж самага хоча ўлада чаго хоча творчая інтэлігенцыя, ці нечага іншага. Калі іншага, то ў чым тое іншае заключаецца. Перш за ўсё тычылася гэта існавання сёння Беларусі і беларушчыны. Задавалася прэзідэнту пытанне, што ўлада мае на мэце ў гэтым сэнсе; ці нейкую, як прыкідваецца часта ў друку, сацыяльную дзяржаву ці нейкую яшчэ іншую, і даводзілася, што на сённяшні дзень творчая інтэлігенцыя не бачыць альтэрнатывы для правядзення ва ўнутранай палітыцы нацыянальнай ідэі — ідэі, якая мела б аб'яднаць нацыю ў гэтыя няпростыя часы. Нельга сказаць, што з боку ўлады не было сказана, што „не лезьце з тым да нас, бо сёння нам трэба накарміць, напаіць, абагрэць" — пра гэта таксама казалася. І вось ніхто не супраць таго, каб будаваць наша грамадства на аснове нацыянальнай ідэі з усім тым што з гэтага вынікае — састаўлены адпаведныя дамовы адносна да культуры, наогул духоўнасці. Але ёсць вось нейкія перашкоды знешнія. У чым заключаюцца гэтыя знешнія перашкоды, і ў чым можа эканамічна правядзенне ў нашай палітыцы беларускай нацыянальнай ідэі можа перашкодзіць — гэта засталося трошкі няўцямным, па-мойму, як для аднаго боку, так і другога.



*Уладзімір Някляеў.*

**М. Л.:** *Ваша сустрэча з уладамі была па-рознаму ўспрынята асяроддзем.*

**У. Н.:** Даволі рэзка гэты крок быў успрыняты людзьмі, якія стаяць на самым краю беларускага флангу, што гэта нібыта не трэба было рабіць, што з гэтай уладай мы нічога не можам дасягнуць, ніякага паразумення, і трэба чакаць. Ніхто не ведае і не можа сказаць, чаго чакаць. Чакаць таго, што наогул будзе парушаны нават той стан беларушчыны, які ёсць на сённяшні дзень, а ўжытак беларускай мовы становіцца ўсё меншым і пашыраецца ўплыў рускай культуры; ды якой жа культуры — папсы, псеўдакультуры — гэта ж відавочна ўсім і гэта працуе досыць энергічна. Не выпадае творчай інтэлігенцыі, тым больш пісьменнікам, чакаць і глядзець, што з гэтага вынікне! Чакаць, што нібыта гэта ўсё рухне, на гэтых абломках мы пачнем нешта новае, прыгожае, светлае рабіць. Трэба быць усё-такі рэалістам, глядзець, калі ты ўсур'ёз думаеш пра тое, што адбываецца, усур'ёз думаеш пра будучыню тае краіны, у якой жывеш. Трэба падыходзіць больш рэалістычна да абставін, у якіх знаходзішся. І той жа ўладай было сказана, канкрэтна прэзідэнтам (гэта чамусьці мала хто пачуў), што палітык, у тым ліку і прэзідэнт, гэта сістэма ўздзеянняў, кожны дзень знаходзіцца пад тым ці іншым прэсам з боку адной палітычнай сілы, думкі, ідэі той ці іншай, і калі не занята тая ніша, з якой мы хацелі б уплываць на ўлады, тая ніша будзе занята іншымі сіламі, людзьмі...

**М. Л.:** *Пра грошы сярод джэнтльменаў не было размовы...*

**У. Н.:** Стаяла адзінае матэрыяльнае пытанне, пра што я сказаў у сваім слове — гэта лёс Дома літаратара. Я паспрабаваў пратлумачыць, што тут справа не толькі ў тым, што маёмасць страчана. Маральны бок таго што адбылося — перадача ўласнасці ў гаспадарчае ўпраўленне адміністрацыі прэзідэнта адбіваецца ва ўсёй краіне. Па раёнах, абласцях сядзяць клеркі, чыноўніцкі люд рознага рангу і маштабу, які разважае даволі проста: ага, калі пісьменнікаў сагналі з уласнае хаты ў сталіцы, то калі гэта не прамая каманда, дык ускосная не вельмі цацкацца з імі нідзе! Гэта стала праяўляцца рэальна на месцах. Зараз, калі літаратар едзе выступіць (гэта яшчэ не паўсюдна, дык былі ўжо такія выпадкі) у школе ці на прадпрыемстве, яму трэба ў раёне зайсці ў аддзел культуры, каб яму там паставілі пячатку надзейнасці, калі ў школе — у маладзёжную арганізацыю, зазвычай у Беларускі патрыятычны саюз моладзі. Гэтага не было ў нас ніколі! Такое не можа пераўтварыцца ў практыку! Ёсць істотныя на сённяшні дзень праблемы — утрыманне на нейкім больш-менш прыстойны узроўні кнігавыдавецтва беларускамоўнага і друкавання перыядычных выданняў. Выдавецтва „Мастацкая літаратура" па завядзёнцы фінансавалася ў 50% дзяржавай, 50% павінна было само зарабіць. У ранейшыя гады гэтага хапала, цяпер не. Па вельмі розных прычынах скарачаецца тыраж кніг і прыбытак за іх. Сама цікавасць да літаратуры, не толькі беларускай, падае, купляецца менш кніг. Шэраг пытанняў вось такога кшталту, якія, хочаш ці не хочаш, а вырашыць іх можна толькі ў кантакце з дзяржавай, сродкамі, якія яна на гэта выдаткоўвае. Вядома, можна нейкія праекты зрабіць аднаразова (як, напрыклад, выданне „Сцяны" В. Быкава), як акцыі. Няма з боку структур і ведамстваў, якія займаюцца паралельна з намі пытаннямі культуры і асветы, асаблівых супярэчнасцяў з тымі пазіцыямі, з той лініяй, якую мае намер праводзіць Саюз пісьменнікаў. Дык што тут рабіць — **кантактавацца з імі, ці не**? Нармальнае пытанне, калі лагічна да ўсяго таго падыходзіць. Дакладней — адказ тут просты. Каб зрабіць нейкую справу лепш і каб захаваць тое што ёсць і мець нейкую перспектыву, трэба кантактаваць з людзьмі, якія працуюць у гэтых структурах. Я не бачыў аніякай (як і не бачыў, калі мы рыхтавалі гэтую сустрэчу) шкоды. Іншая права, што з гэтага будзе вынікаць канкрэтна, таму што паабяцаць можна што заўгодна, а ўжо выконваць гэта будуць адпаведныя людзі, тыя ж чыноўнікі. Як свечыць папярэдняя сустрэча, не заўсёды абяцанае на справе рэалізоўваецца. Але гэта будзе залежаць ад таго, наколькі актыўна будзем мы дамагацца, каб папярэднія дамоўленасці былі скарыстаны і выкананы.

**М. Л.:** *Дзякуем за размову, жадаючы, каб удалося выкарыстаць усе магчымасці дзеля паправы кандыцыі пісьменнікаў і ўсяго Сяюза, а таксама, каб Вам, як паэту, спрыяла Муза.*

Запісала Міра Лукша

*Фота аўтара*

# На беларускім памежжы

У днях 25-27 верасня 1998 г. праходзіла ў Супраслі навуковая канферэнцыя, прысвечаная тоеснасці палякаў на ўсяляких памежжах. Галоўным яе арганізатарам быў дырэктар Інстытута сацыялогіі Беластоцкага ўніверсітэта прафесар Анджэй Садоўскі. Сярод звыш сарака зачытаных дакладаў шмат увагі было адведзена свядомасці палякаў на беларускім памежжы.

Мікалай Бяспамятных з Гродна сказаў, што кожны чацвёрты жыхар Гродзеншчыны з'яўляецца палякам. Аднак тамашнія палякі не зусім адчуваюць сябе палякамі, а толькі ў 60 працэнтах, — даказваў Бяспамятных. Большасць адказвала дасьледчыку: „раней нас пісалі палякамі, цяпер пішуць беларусамі, а мы цяпер і самі не ведаем, кім мы ёсць". Большасць палякаў гаворыць на рускай мове, да штодзённага карыстання польскай прызнаецца толькі 8%. Паводле апытанняў, звыш 55% палякаў падтрымлівае дзяржаўную незалежнасць Беларусі, а толькі 8% хацела б інтэграцыі Беларусі з Расіяй. Дакладчык не патрапіў, аднак, адказаць на пытанне, чаму амаль 90% палякаў падчас рэферэндумаў станоўча адказала на інтэграцыйныя прапановы Лукашэнкі.

Паводле Ванды Русецкай з Мінска палякі, якія жывуць на Беларусі, нацыянальную свядомасць атрымалі з бацькоўскага дому. Другім важным фактарам, які фарміруе іх свядомасць гэта Касцёл і каталіцкае веравызнанне. 37% беларускіх палякаў сваёй мовай лічаць рускую, 21% — беларускую, і толькі 14% польскую, усе астатнія дакладна не патрапілі адказаць на гэтае пытанне.

Прафесар Надзежда Галубкова з Менска праводзіла даследаванні на Беласточчыне. Прадметам яе зацікаўлення была нацыянальная свядомасць тутэйшых беларусаў. Савецкая метадалогія паўплывала на тое, што вынікі даследаванняў атрымаліся надта аптымістычныя. Першым вялікім адкрыццём спадарыні прафесар было тое, што беларусы Беласточчыны „не гавораць ужо на старой беларускай мове", а толькі ўсялякімі дыялектамі. Звыш 42% тутэйшых праваслаўных — паводле Надзежды Галубковай — ганарыцца тым, што з'яўляюцца беларусамі, у сямейным жыцці карыстаецца беларускай мовай, нацыянальнасць атрымала з бацькоўскага дому. Гэта ў большасці людзі з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй. Толькі 11% (!) адчувае сябе палякамі. 32% лічыць сябе палякамі беларускага паходжання. Праваслаўныя беларусы Беласточчыны — гаварыла дакладчыца — лічаць, што католікі могуць быць таксама беларусамі. Поўная фантастыка, асабліва калі ўспомніць візіт Зянона Пазьняка ў Беластоку ў траўні 1997 г.

Прафесар Сяргей Яцкевіч з Брэста расказаў пра канфлікт паміж Саюзам палякаў Беларусі і ўладамі краіны. Дзеячы — паводле прафесара — дамагаюцца чыста польскіх школаў, а тым часам няма нават ахвотных запоўніць класы з польскай мовай навучання. Палякі, так як беларусы, хочуць вучыцца на рускай мове. Улады прапануюць ім навучанне польскай мовы ў якасці прадмета.

Прафесар Альжбета Смулкова, кіраўнік Кафедры беларускай культуры Беластоцкага ўніверсітэта сказала, што няма сэнсу разглядаць беларускіх палякаў у катэгорыях нейкай нацыянальнай супольнасці, можна аднак гаварыць пра абліччы польскасці на Беларусі. Саветызацыя ў аднолькавай ступені закранула як палякаў, так і беларусаў.

Аналіз менталітэту саветызаванага паляка-калгасніка вельмі дакладна прадставіла Анна Энгелькінг з беластоцкай Кафедры беларускай культуры. „Калгас мусіць быць, таму што не можа яго не быць" — гавораць палякі. Калгас дае ўсё: працу, харчовыя прадукты, будаўнічыя матэрыялы на касцёл, пачуццё бяспечнасці. Пакуль існуюць калгасы, існуе і парадак на зямлі. А пакуль будзе Лукашэнка, будуць і калгасы. Бог стварыў свет такім, якім ён ёсць і трэба да гэтага прыстасавацца, не варта пляваць супраць ветру — па-філасофску гавораць палякі, якія жывуць у калгасах Гродзеншчыны. Анна Энгелькінг паставіла тэзіс, што няма палякаў-калгаснікаў, а толькі калгаснікі-палякі. Ад калгаснікаў-беларусаў адрозніваюцца яны выключна тым, што яны „польскай веры". Калгас стварыў універсальнае бачанне свету, у якім нацыянальнасць, мова, ці нават веравызнанне — гэта справы другарадныя.

**Яўген Міpановіч**

# *„Што ў сэрцы" Валодзі Саўчука*

Добры хлопец Валодзя Саўчук, родам з Кузавы на Падляшшы, піша вершы. Добра працуе, добра ажаніўся, добра выхоўвае сыноў... І вершы ў яго добрыя, хоць пра гэта мала хто да гэтага часу голасна сказаў. Вершы добрыя, *свойскія*. Не толькі таму, што яны такія „нашыя", расказваючыя аб тым, „што ў сэрцы" Валодзевым і нашым. Поўныя яны тае **энергіі**, якую вокам не ўбачыш, пакуль не ўключыш, напрыклад, лямпу, пакуль не адчуеш цяпло. Параўнанне тут да тае працы Валодзі Саўчука, звязанай з энергетыкай, але трапнае, здаецца мне, бо не бачна тае працы рухавікоў і турбінаў — хіба толькі дзеці часцей думаюць пра тое, адкуль бярэцца той ток, пытаюцца больш за ўсіх... Таму і вяртанне паэта да таго дзяцінства, агляд рэчаіснасці і краіны мараў тым *магутным дзіцячым зрокам*, які час ад часу паэтам удаецца зноў убачыць свет. І ёсць праўдай тое, што чалавек хацеў бы за яе лічыць, нават калі балюча сэрцу.

*А праўда вялікая*
*як асенні сон*
*разгулялася на паперы*
*заглянула ў душу*
*свайго мінулага.*

Уладзімір Саўчук задае пытанні нам, праваслаўным падляшукам-беларусам, пра сэнс жыцця тут, і не толькі ў нас пытаецца. Ён адклікаецца да *чалавека канца дваццатага стагоддзя, чалавека з аўтарытэтам*, каб *разгарнуў свае думкі, ці не перамяшалася палова з чыстым зернем слоў*, каб справабаваў даведацца,

*па якой дарозе*
*праграма нашага жыцця*
*хто нам падказвае*
*куды павярнуць вочы*
*чаго слухаць*
*калі пахіляць галаву*
*ў падзяцы:*
*за страву на талерцы*
*за цяпло мацярынскіх слоў...*

Вершы У. Саўчука ў гэтым зборніку гэта падборка з усяго часу, калі ён піша, так што можам знайсці творы, у якіх ён, безнадзейна сумны, уздыхае ў трывожную хвілю, калі не бачыць дарогі ці ў адчаі крычыць: *цяжка вымазаць грахі жыцця, калі ў сям'і астаўся я на здымку*, а *няма тут твайго пасагу!*, або *пакіну труд — чарвівае жыццё, замкну дзяржаву слоў маіх навекі*. Але вяртаецца на радзіму сваіх сардэчных думак, дорыць вершы кузаўцам і слабадчанам, спявае:

*Беласточчына мая*
*радзіма*
*схоў сцежак*
*у дрымучых лясах*
*Бельск і Гайнаўка*
*настой на чарамшынах...*

і крычыць ад болю:

*скажыце: дзе шукаць прычыны*
*пагібель споўніцца як сон*
*сяло заснула ўжо ў палыне*
*цярпліва травіцца бетон*
*лугоў зялёных попел-пыл*
*заслаў дрымучыя дзве тоні*
*вось тут пагібель — Чарнабыль*
*бетонны яз маёй Пагоні.*

*Блудны сын едзе сюды назад пакланіцца разваленым варотам*, туды, дзе *абкідаюцца балотам слоў язычнікі і кнігазнаўцы*, каб папракнуць тых, што *адвярнуліся плячамі ад святога хлеба*, ад роднага праваслаўя. Яго *душу прыкрыла хустка журботы*, але яму

*засталася мова*
*якая сцеле*
*славу за сабою*
*вось гэтыя словы*
*насталі як свята*
*насталі як пульс жыцця*
*ў цяжкі будзень*
*таму і плача зямля*
*што столькі бяды*
*ўзвалілі на грудзі*
*што зернеткі слоў*
*застаюцца пустымі*
*вецер палову*
*гоніць аблагамі*
*старыя бацькі*
*угінаюць спіны*
*каб толькі дзеці*
*выраслі панамі...*

Прачытаеце кнігу Валодзі Саўчука не раз. І будзеце прачытваць, хоць з болем у сэрцы і слязою ў вачах. Напісана яна добра і шчыра, прыгожа. Гэта паэзія.

**Міра Лукша**

*Уладзімір Саўчук, *Што ў сэрцы*, Беласток 1998, выданне Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва", сс. 78.

# *Сустрэча ў бібліятэцы*

25 верасня г.г. у Гарадской бібліятэцы ў Гайнаўцы адбылася сустрэча з дырэктарам Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве, былым намеснікам міністра культуры і мастацтва, колішнім упаўнаважаным прэм'ера па справах нацыянальных меншасцей Міхалам Ягелам.

На спатканне прыйшло многа вучняў II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання, прыйшлі настаўнікі і жыхары горада, якіх цікавіла не толькі асоба былога ўпаўнаважанага па справах нацыянальных меншасцей, але і асоба пісьменніка. Спачатку былі ўспаміны Міхала Ягелы ад працы на міністэрскай пасадзе.

— Быць беларусам з выбару і грамадзянінам Польшчы — гэта цяжкая справа, — гаварыў дырэктар Міхал Ягела. — Ведаю, што гэта значыць быць утопленым у польскім і рымска-каталіцкім моры жыхароў Польшчы. Не адзін раз мяне папракалі, што ем польскі хлеб, а столькі гавару пра нацыянальныя меншасці.

Калі экс-міністр пачаў гаварыць пра сябе, спасылаўся, ужо не першы раз, на сваё славутае прозвішча і яго гістарычнае паходжанне, шукаючы каранёў і ў Польшчы, і ў Літве, і ў Беларусі. Называў сябе дзіцём заходняй Еўропы, але адначасова „чалавекам пагранічча". Успамінаў і пра даўнейшыя гады, калі разам з пакойным міністрам Ежы Мілеўскім хадзіў па горах, актыўна займаўся альпінізмам і адзін раз амаль не загінуў у час буры.

Госць многа гаварыў пра сваю пісьменніцкую дзейнасць, літаратуру факта, публіцыстыку і мастацкую прозу. Асабліва многа ўвагі прысвяціў сваім тром кніжкам „Трохвугольная турня", „За гранню грань" і „Яўна і скрыта" (яшчэ не выдадзеная), якія змяшчаюць у сабе элементы біяграфіі аўтара. А намеснік міністра, які ва ўрадзе супрацоўнічаў з васьмю прэм'ерамі і васьмю міністрамі культуры, калі захоча, можа нешта расказаць.

У канцы спаткання Міхал Ягела чытаў фрагменты сваёй новай кніжкі „За гранню грань" і падпісваў яе гайнаўскім чытачам.

**Аляксей Мароз**

# Вяртаем нашу спадчыну

Наш суродзіч **Іпаліт Краскоўскі** нарадзіўся каля 1840 года ў Дубічах-Царкоўных у сям'і святара. Краскоўскія, мабыць, паходзілі з беларускіх путных баяраў, якіх пасяліў адзін з вялікіх князёў літоўскіх на паўднёва-заходняй ускраіне тадышняй Камянецкай пушчы, рэшткі якой потым набылі назву Белавежскай. Яшчэ да сёння захавалася каля Дубічаў назва ўрочышча „Краскоўшчына", відаць, там знаходзілася сядзіба баяраў Краскоўскіх.

І. Краскоўскі закончыў праваслаўную духоўную семінарыю, затым Пецярбургскую духоўную акадэмію. Некалькі гадоў працаваў настаўнікам Варшаўскага праваслаўнага духоўнага вучылішча. У канцы 1860-х гадоў пераехаў у Маскву на працу ў часопісе „Московские ведомости", у якім працаваў аж да выхаду на пенсію. Напісаў шэраг цікавых апавяданняў і аповесцяў, якія выйшлі ў двух тамах у 1884 г. у Маскве. У большасці гэтых твораў І. Краскоўскі праз маляўнічыя вобразы побыту нашых продкаў, іх звычаяў, бытаваўшых сярод іх вераванняў і паданняў, красу прыроды і асабліва Белавежскай пушчы, выразіў сваю ўлюбёнасць у край свайго дзяцінства і юнацтва, расславіў непаўторную прыгажосць нашай зямлі і зацікавіў ёю іншых творцаў. Расійскі жывапісец І. Шышкін тут стварыў карціны „Ссечаны дуб. У Белавежскай пушчы", „Белавежская пушча. Буралом", „Пчальнік. Белавежская пушча" і іншыя, мастак і нарысіст Г. Карцоў выдаў каштоўны альбом „Белавежская пушча".

Ён, як адзін з першых, паказаў жыццё яўрэйскай бядоты ў Расійскай імперыі.

Памёр Іпаліт Краскоўскі 12 студзеня 1899 года.

Іпаліт Краскоўскі

# *Іцка крамар*

I

У наваколлі славутага мястэчка Орля, што рассыпала свае халупкі паўз бераг крынічнай, празрыста-струменістай рэчачкі Арлянкі, яшчэ і цяпер памятаюць убогага крамара. А гісторыя гэта даўняя, калі ён крывавым мазалём здабываў хлеб, каб пракарміць сем Іцкавічаў з чорнымі кучаравымі галоўкамі, дугою выгнутымі вачаняткамі, што заўсёды басанож і ў адных дзіравых штоніках выбягалі далёка за ваколіцу мястэчка, каб сустрэць свайго карміцеля, свайго дарагога „татэлэ".

Шырокі, пясчаны шлях. Па баках яго, быццам яўрэйскія ўдавіцы, што плачуць па сваіх мужыках на пустэчы могілак, самотна стаяць плакучыя вербы. Злева ад дарогі пустка з густымі разрослымі кустамі ядлоўцу, з худымі, абгрызенымі авечкамі, бярозкамі, з бліскучай стужкай рэчкі воддаль, што віецца па зялёным лузе; направа сумнае, ужо пачарнелае ад частых дажджоў бульбянішча і за ім лес Княжына, які запаланіў сваімі агрaмаднымі дрэвамі чарназёмную раўніну і з пагардай зірнуў на дзіравыя стрэхі хацін мястэчка. Зірнуў лес пагардліва і задумаўся, калі яго змрочны позірк сустрэўся з высокім, вышэйшым за самыя магутныя ягоныя дубы, мураваным гмахам, звенчаным дзівосным цагляным дахам. „Што гэта такое?" — дзівіцца лес. Няхай запытаўся б пра тое ў Іцкавічаў, якія выбеглі на шлях і хаваюцца ў цяню вербаў ад слабеючых, але яшчэ пякучых промняў ліпеньскага сонейка. Паабдзіраныя, напалову голыя Іцкавічы, на плячах якіх толькі шматкі брудных гануч нагадваюць пра кашулі, з гонарам адказалі б яму: „Гэта наша сінагога, то наша школа!"

II

Пячэ сонейка, пячэ... Нават даўганогі бусел на лузе каля рэчкі, што безвынікова паляваў на схаваныя ў вадзе жабы, развіў дзюбу і падкурчыў пад сябе правую нагу.

— Ой, доўга татэлэ няма, татэлэ яшчэ ніколі позна не прыходзіў перад шабасам! — маркотна прамовіў старэйшы Іцкавіч, дзесяцігадовы Шалом. — Калі ж наша мамэлэ ялавічынкі і мучыцы купіць, калі яна шабасовую святочную страву нарыхтуе?

— Бяжым наперад, вунь туды, пад лясок! — прапанаваў сямігадовы Давід. — Мо татэлэ вельмі стаміўся і цяпер там адпачывае пад маладымі сосенкамі.

І дзятва гарэзлівым натоўпам памкнулася да лясочка, але раптам ззаду пачуўся роспачны крык трохгадовага Манулькі, што не паспяваў і застаўся ў дзесяці кроках за братамі.

— Бяжыце, я яго падыму! — распарадзіўся старэйшы Шалом, падбег да Манулькі, узваліў яго сабе на плечы і кінуўся галопам даганяць братоў.

З лясочка выходзіў на шлях згорблены падарожны. На жаль, цяжкая каробка прыгнятала яму плечы. А ў гэтай каробцы была ўся ягоная маёмасць, жыццё і багацце гэтых безабаронных дзетак. Няўдала гандляваў крамар. Мокры, даждлівы год. Збожжа прарастае ў калоссі на полі. Жміндзіцца з грошам селянін, прыхоўвае на чорны дзень грош стралец у пушчы, нават пан і той, пазіраючы на гніючае збожжа ў полі, у задуме кажа: „Кепска справа!"

— Ох, ох! — грамчэй за ўсіх стогне Іцка пад цяжкай каробкай, намацваючы ў кішэні адны медзякі. — Ох, ох! — паўтарае ён, абапіраючыся на кій, быццам Вечны Жыд, што натужліва крочыць наперад паводле загаду бязлітаснага лёсу. — Што я прынясу сваёй жонцы Гітэлэ, з чаго будуць жыць увесь тыдзень мае дзеткі? Ох, мой вялікі Божа, ох!

Пот сыплецца густымі кроплямі з-пад ярмолкі па чорных павойных пэйсах крамара, па ягоным загарэлым твары. Грудзі надрыўна хвалююцца.

— Ох, ох, ох, ох! — уздыхае ён, быццам уздыханнямі выбівае такт сваім пратаптаным башмаком, праз які вострыя каменьчыкі раняць яму пяту...

Але ж нечакана ён заўважыў уперадзе сваіх Іцкавічаў. Ён выпрастаўся, вырас: патанаўшыя ў глыбокіх вачніцах на яго змарнелым твары чорныя вочы бліснулі праменьчыкамі захаплення.

— Кляйнэчке, майнэ кляйнэчке, маленькія вы, мае маленькія! — усклікнуў ён, і быццам не прайшоў за гэты дзень трыццаці вёрст, быццам з яго плячэй знялі два дзесяткі гадоў, пасерабрыўшых ягоную густую бараду, кінуўся насустрач сваім „нашчадкам Ізраіля".

*(працяг будзе)*

**Уступ і пераклад з рускай Міколы Гайдука**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Зямля — планета жыцця



*Вучні бельскай „тройкі" на славутым прычэпе.* Фота Адрыяна КРУКОЎСКАГА

У днях 18-20 верасня ўвесь свет адзначаў Сусветны дзень зямлі. У гэтым годзе, як і ў папярэдніх, вучні бельскай „тройкі" таксама далучыліся да прыбірання наваколля. Надлясніцтва з сядзібай у Галадах разам з настаўніцамі біялогіі з нашай школы Альжбетай Навацкай і Агнешкай Жукоўскай далі нам таксама магчымасць прыбірання.

18 верасня вучні класаў VIII „а" і VIII „е" падаліся ў Галады, дзе трэба было прыбраць адрэзак дарогі (за чысціню якой адказныя нашы леснікі). Вучні прыбіралі равы і край лесу. Добра, што раней атрымалі мяшкі, рукавіцы і кіёчкі для прыбірання. З увагі на вялікую колькасць добраахвотнікаў (52 асобы) прыбіранне пайшло вельмі хутка, што з'яўляецца найлепшым доказам на тое, што гуртом можна многа здзейсніць. Сярод смецця найбольш было бутэлек, шкла і паперы. Здараліся, аднак, і гаршкі, і міскі, а нават адзежа.

Найбольшым атракцыёнам усяго прыбірання быў трактар з прычэпам, на які мы кідалі мяшкі са смеццем. Трэба сказаць, што язда на прычэпе, сярод смецця, цешылася самым вялікім зацікаўленнем. Мілым заканчэннем акцыі было вогнішча, спансараванае нашымі леснікамі. Усе маглі з'есці каўбаскі і напіцца аранжады. Гульні ля вогнішча былі „пышныя".

Не бракавала таксама прыгодаў у зваротнай дарозе, калі мы заўважылі, што сярод школьнікаў няма двух хлопцаў. Жартаўнік Адрыян Крукоўскі (з VIII „е") сказаў, што хлопцы не дзікі і яны ад людзей не ўцякаюць. Смешна было глядзець на сяброў, якія беглі за аўтобусам.

Удзельнікі акцыі пераканаліся, што час можна правесці сімпатычна ды карысна.

**Жанэта Роля**

PS. Ад імя вучняў класаў VIII „а" і VIII „е" і настаўніц біялогіі хачу падзякаваць леснікам з Галадоў за дапамогу ў арганізацыі акцыі „Зямля — планета жыцця".

# Асенняя цішыня

Лісты ападаюць... Жоўтыя, чырвоныя, барвовыя... Як вялікія птушкі — кляновыя, каштанавыя, ясеневыя — яны танцуюць свой апошні вальс: паціхеньку кружацца, плаўна апускаюцца долу. Лёг... і прыціх... Цішыня. Асенняя залатая цішыня. Здаецца, цішыня... А на самай справе — звіняць ціхенька, ледзь-ледзь чутна ды такой цудоўнай мелодыяй. Толькі б навучыцца слухаць. Слухаць затоены, ціхі, крыху сумнаваты напеў, асенні напеў самой цішыні. А яна, цішыня, таксама пяе. Своеасаблíва, толькі прыслухацца трэба, і пачуеш...

Рабіна... рабіначка... Уся гарыць, палае пунсовымі гронкамі-цяпельцамі... Здаецца, вось-вось перагарыць галінка, і зваліцца тады агонь на зямлю і пабяжыць па сухой траве... Ды не. Нікуды не ўпадуць рабінавыя ягадкі і нікуды не знікнуць. Будуць чакаць першага марозу, падмарожаныя, стануць яны смачныя, прывабныя і для людзей, і для птушак... Надзейны паратунак ад голаду.

Зусім не за гарамі сцюжа, халады, паваротак на зіму. А пакуль дыхае прырода восенню, пераплеценай з летам, шматфарбнай, толькі ціхай. Але ж і цішыня, бывае, гучыць... Нават зліваецца ў адзін зык, у адну восеньскую мелодыю і жыве, прадаўжае жыць...

**Наталля Суслава**

# Будзем шанаваць сваю традыцыю

Субота 5 верасня 1998 г. была незвычайным днём для жыхароў Орлі. У нашай школе адбылося адкрыццё выстаўкі Міхала Мінцэвіча „Пяць вякоў Орлі і ваколіц". Мы з цікавасцю аглянулі працы аўтара. Яны вельмі багатыя тэматычна. Знаходзяцца ў іх весткі пра гісторыю нашай вёскі (пабудову замка, эпідэмію халеры, вялікі пажар у 1938 годзе, пабудову сінагогі, шпіталя, жыдоўскай школы), а таксама інфармацыі пра заняткі і прафесіі жыхароў. Вялікую ўвагу звярнулі мы на здымкі з жыцця Царквы і пейзажы ваколіц.

Дзякуючы выстаўцы мы маглі вярнуцца да сваіх каранёў, да роднай культуры.

Будзем шанаваць сваю традыцыю.

З удзячнасцю —

**вучні VII класа Пачатковай школы ў Орлі**

## *Вершы Віктара Шведа*

### *Вучым сыночка маўчаць*

— Не бачыліся мы гадок,
Хіба ўжо вырас ваш сынок?
Маю такую я надзею
Што размаўляць ужо умее.

— Маем сыночка мы такога,
Што размаўляе аж занадта.
І мы цяпер, хачу сказаць,
Вучым ужо яго маўчаць.

### *Не люблю хадзіць у школу*

— Не люблю хадзіць у школу,
Там усё пытаюцца.
Патрабуе ўсё дазволу,
Мне не падабаецца.

Школа сталася крамолай,
Я ж там не выдатніца.
Не люблю хадзіць у школу
Ад панядзелка па пятніцу.

# Пакровы

Свята Пакровы, якое Царква адзначае 14 кастрычніка, мае дахрысціянскія вытокі. Раней завяршала яно канец палявых прац. Пакровы лічыліся пераломным момантам у жыцці прыроды. Да іх звычайна завяршаліся ўсе работы ў полі і садзе, уцяпляліся хаты і гаспадарчыя пабудовы. Пасля Пакроў людзі пераводзілі жывёлу ў хлявы. Часта таксама ладзілі вяселлі. У народзе гаварылася: *Пакровы пакрываюць траву лістам, зямлю снегам, ваду лёдам, а дзяўчат шлюбным чэпцам.* Дзяўчаты вечарам перад Пакровамі варажылі пра замужжы, елі на ноч салёную аладку, каб у сне суджаны паднёс ім вады. Пакровы адкрывалі вячоркі, на якіх жанчыны пралі воўну і лён.

Са святам звязаныя прыказкі: *На пакровы дай сена карове; Прыйшлі пакровы, пытаюць ці да зімы гатовы.*

# Скорагаворкі

Каваль каваў каня, конь каваля — капытам, каваль каня — калом.

* * *

Тры дрывасекі, тры дрываколы на трох дварах дровы калолі, дзе добра пераколвалі, дзе толькі паперапалавіньвалі...

# Вучні бельскай „тройкі” — малайцы



*Дзеці з ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

24 верасня 1998 г. (у бельскай „тройцы”) адбылася наладжаная настаўніцай беларускай мовы Валянцінай Бабулевіч сустрэча з беларускімі пісьменнікамі. Героямі спаткання былі: Уладзімір Някляеў (старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі, рэдактар часопісаў „Крыніца” і „Літаратура і мастацтва”) ды Алесь Барскі (гісторык літаратуры, паэт).

Пісьменнікі наведалі нашу школу пры нагодзе сімпозіуму беларускіх пісьменнікаў, які 24-25 верасня г.г. праходзіў у Гайнаўцы. Галоўнай мэтай сустрэчы была размова пра пісьменства (у гэтым выпадку пра паэзію і журналістыку).

Вучні падзяліліся з пісьменнікамі думкамі пра ўплыў беларускасці на жыццё іх ды іхных сем'яў.

Рэдакцыя „Бельскага гасцінца” ўручыла гасцям сваю газету. Уладзімір Някляеў абяцаў паказаць яе сваім сябрам-пісьменнікам.

Мне было асабліва прыемна паслухаць крытычныя заўвагі на мой верш ды пачуць ад А. Барскага, што я „сімпатычная паненка”, а ад У. Някляева атрымаць кніжку „Прошча” з аўтографам. Пісьменнікі згодна заявілі, што вучні бельскай „тройкі” — малайцы! На канец сустрэчы вучні, як наказвае традыцыя, уручылі гасцям кветкі і сказалі: „Такіх сустрэч спадзяемся больш”.

**Жанэта Роля,**
**VIII „а” клас бельскай „тройкі”**

* * *

На стустрэчу прыйшло каля сарака старэйшых вучняў бельскай „тройкі”. Замежны паэт расказаў пра свой першы верш, сваю творчасць, а таксама чытаў з памяці адзін са сваіх твораў са зборніка „Прошча”. Пасля разгарэлася дыскусія, у час якой паэты выслухалі, між іншым, верш нашай сяброўкі Жанэты Ролі і ацанілі яго.

**Міхась Сцепанюк,**
**VIII „е” клас бельскай „тройкі”**

# Язэп Варонка

Язэп Варонка быў беларускім палітычным дзеячам, ураджэнцам Сакольшчыны. Нарадзіўся ён 17 красавіка 1891 года. Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце. У 1917 годзе ўступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду. Была гэта тады найбольш магутная беларуская партыя. Пасля лютаўскай рэвалюцыі ў Расійскай імперыі ствараўся новы палітычны парадак. Свайго месца шукалі таксама беларусы. Інтэлігенцыя ядналася вакол усялякіх палітычных цэнтраў. Адны прапанавалі быць у складзе Расіі, другія — будаваць супольную дзяржаву з Літвою, яшчэ іншыя думалі пра поўную незалежнасць Беларусі. Язэп Варонка ездзіў на ўсялякія сходы народаў Расіі, прыглядаўся, што прапануюць іншыя. Хаос рабіўся штораз больш, набліжалася бальшавіцкая рэвалюцыя, народы імкнуліся ўцячы з расійскага пекла.

Варонка быў адным з ініцыятараў склікання вялікага беларускага сходу, на якім прадстаўнікі ўсіх асяроддзяў маглі б выказаць свае меркаванні наконт будучыні Беларусі. У снежні 1917 года адбыўся І Усебеларускі з'езд. Гэты беларускі сход з удзелам амаль 2 тысяч дэлегатаў выбраў пастаяннае нацыянальнае прадстаўніцтва — Раду, якая 25 сакавіка 1918 года аб'явіла незалежнасць Беларусі. Варонка быў галоўным ініцыятарам абвяшчэння незалежнасці. Быў перакананы, што гэта адзіны шлях, які вядзе да свабоды і мірнага жыцця народа.

Неўзабаве палякі і бальшавікі кінуліся заваёўваць Беларусь. Пасля двух гадоў вайны падзялілі яны паміж сабою Бацькаўшчыну. Адны беларусы ў тым часе шукалі паразумення з палякамі, другія — з расійскімі бальшавікамі. Варонка рашуча адмаўляўся супрацоўнічаць з аднымі і другімі. Адзінай легітымнай уладай на Беларусі лічыў ён эміграцыйны беларускі ўрад, які тады знаходзіўся ў сталіцы Літвы Коўне. Не было аднак надзеі на вольную Беларусь. У 1923 годзе Язэп Варонка падаўся на эміграцыю ў Амерыку, дзе пачаў арганізаваць жыццё беларусаў, якія па палітычных прычынах вымушаны былі развітацца з Бацькаўшчынай. Памёр у Амерыцы ў 1952 годзе.

Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага

# У паход

— Вось як мы хадзілі з панам Заблоцкім у вялікі паход... — часам прыгадае пан Кубліцкі, цяжанька ўздыхне і засумуе. А пан Заблоцкі пачне нешта вырабляць рукою, як быццам сячэ шабляю, і лаецца рознымі словамі.

А было тое даўно, калі пасварыліся князь Дрыгайла з каралём Гарбузом Васемнаццатым. Не ў першы ўжо раз заеліся, а з-за чаго — кадук іх ведае. Можа, з-за чорнага хорта, можа, з-за сівае кабылы. Людзі рознае гамоняць. Але назбіралася з абодвух бакоў мноства войска, і рушылі адно супраць аднаго сячы, страляць, мясіць крывавую калатушку. Зазбіраліся і пан Кубліцкі з панам Заблоцкім. Як жа ў такой калатнечы ды без іх!

Але не спяшаюцца, паціху трухаюць, бо самі тоўстыя, што кулі з сенам, а кабылка без таго ледзьве перастаўляе ногі, цягнучы воз з харчамі. На тым возе — вэнджаныя куры, кумпякі, кілбасы, шынкі, карчагі з віном, разынкі, салодкае сочыва ды розныя іншыя прысмакі. У паноў пакуль што адзін клопат — ядуць, як у прорву. Аднак неўзабаве ад усяе раскошы застаецца адна торба з пражаным гарохам. Тады ўжо паны нецярпліва пакрыкваюць на кабылку, каб не прыехаць на бітву галоднымі.

Ужо чуваць за гарою шматгалосая чалавечая гамана. Уз'ехаўшы на ўзгорак, паны бачаць: лагчына зацягнулася сівым туманам, і ніяк не разбярэш, дзе дрыгайлаўцы, дзе гарбузятнікі. Але паны ўжо ўваходзяць у газард: ваяваць ды ваяваць! Дастаюць заіржэлую дзедаўскую стрэльбу і ўсталёўваюць на драбінах.

— Хай пан насыпе пораху вось сюды, — будзе павучаць пан Кубліцкі, — а я напіцую шроту ў рулю, а пан тады хай высячэ агню, а наводзіць буду я... толькі во не ведаю, па кім. За каго мы — за караля ці за князя, га, пане Заблоцкі?

— Потым разбярэмся! — кажа пан Заблоцкі. — Цяпер галоўнае — страляць!

На пачатку стрэльба ніяк не хоча слухацца, і паны з лаянкаю ад яе адыходзяцца, ажно ў гэты самы момант у стрэльбе нешта сквірчыць, як сала на патэльні, тады гахае так, што паны ад нечаканасці гэпаюцца на зямлю, што пераспелыя грушы. Калі ж яны падымаюцца і, абтрасаючы з сябе конскі гной, глядзяць уніз, дык бачаць вялікае дзіва: туман разышоўся, воі збіліся ў гурт, усе абдымаюцца, кідаюць у паветра шапкі і крычаць: „Віват!”

Тут вось што: пакуль паны шчыравалі над сваёй жалезнай зграодзінай, дрыгайлаўскія ды гарбузоўскія мужыкі пагаманілі паміж сабою: чаго нам біцца з-за княжацкага хорта ці каралеўскай кабылы? Дый пагадзіліся. Тады і князь з каралём мусілі мірыцца: выехалі насустрач адзін аднаму пад белымі сцягамі, паціснулі рукі ды раз'ехаліся. І ў гэты момант з пагорка грымнуў стрэл. Натуральна, нікога не забіла, бо паны ў спешцы пераблыталі мяхі ды зарадзілі стрэльбу пражаным гарохам. У войсках жа палічылі, што гэта салютаванне з нагоды міру, і ўсе закрычалі: „Віват!”

І вось паны Кубліцкі ды Заблоцкі едуць дахаты, абкрытыя, як той казаў, ад галавы да пятак баявой славаю. Яны яшчэ доўга будуць цешыць сябе ды людзей сваімі байкамі: як шаткавалі ворага што тую капусту, як самога гарбуза расплюскалі на праснака.

Лоўка брэшуць, каб іх качкі стапталі. Ну і хай сабе. Яно куды горай, калі не ў байках, а напраўду праліваецца чалавечая кроў.

**Пятро Васючэнка**

# Польска-беларуская крыжаванка № 41

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ▶ | | Żelazko | Powieść | Oparcie | Chan | ▼ | Dowód | Korekta | ▼ |
| Jad | Przejście ▶ / Pręt ▼ | ▼ | ▼ | ▼ | ▼ | | ▼ | | |
| Propozycja | ▶ | | | | | | | | |
| Rumianek | ▶ | | | | | | | | |
| ▶ | | | | | | Strefa | | | |
| Huzar | | Smarowidło ▶ | | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 37:** абзац, асада, маршрут, ларок, каша, піск, запаведнік, хада, аса, рака, пах, ліпа, самасад, царква, ядро, шкода, дар, сук, маталка, Нараўка.

Узнагароды — **аўтаручкі Pilot SUPER GRIP** — выйгралі: **Марта Трашчотка** і **Анджэліка Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага.



Талон „Зоркі” № 41
11.10.1998

Вершы для дачушкі

# На радасць маці, бацьку Шведу...



*Наталька на аўтарскім вечары свайго бацькі.*

У маіх руках „Вершы Натальцы” Віктара Шведа з яго подпісам: „Вялікай і малой Адзе — ад шчырага сэрца. Віктар Швед. Беласток 1.IX.1998 г.”

Кажуць, наймацней мы кахаем унукаў, бо — свядома ці несвядома — адчуваем, што гэта наша апошняе каханне.

Віктару Шведу пашэнціла, будучы ўжо дзедам, на шэсцьдзесят шостым годзе жыцця стаць бацькам няўрымслівай, цудоўнай Натальгі. І зараз жа свет закруціўся, завіраваў вакол яе маленькіх радасцей і смуткаў.

У вельмі маладых людзей (ведаю гэта са свайго вопыту) дзеці наогул выхоўваюцца інтуітыўна. Часта бацькам здаецца, што проста прыбыла ім яшчэ адна лялька для забавы.

Інакш выглядае справа, калі дзіця нараджаецца ў сталых людзей і яму даюць у падарунку жыццё зусім свядома, можа нават з нейкай адчайнасцю. Тады пачуццё, якое ўжо ледзь тлілася іскрынкай надзеі дзесьці на самым дне душы чалавека выбухае гарачым, нязгасным полымем.

У хаце Валянціны і Віктара Шведаў вядзецца дзённік-альбом Натальгі з укleенымі здымкамі яе ад нараджэння ды вершамі таты, што прысвяціў ён дачушцы, — апублікаванымі ў „Зорцы” і неапублікаванымі таксама.

Мала якому дзіцяці пашанцавала мець такі альбом, у якім крок па кроку паказана яго развіццё ў вершаванай, а да таго друкаванай форме.

А цяпер яшчэ ў Натальгі паявілася свая кніжка, і, здаецца, не апошняя пра яе. У кніжцы, як і ў дзённіку-альбоме зарэгістравана ўсё, яшчэ нядоўгае, жыццё васьмігадовай дзяўчынкі, якая ўнесла ў хату яе бацькоў столькі пацехі і ажыўлення. А тата аж памаладзеў! Часта бачу з акна самахода, як гаварыста ён вядзе сваю малую ў музычную школу, і ў думках цешуся разам з ім.

Наталька ў жыцці, як і на вокладцы кніжкі з васількамі, — непаседа, цікаўная свету, свядомая беларуска. У гэтым можа пераканацца кожны, хто толькі сутыкнецца з ёю. А прытым — вялікая кніжніца!

Быццам у дзённіку, вершы ў першым раздзеле ўкладзены ў храналагічным парадку. Вось Наталька ледзь прыехала з бальніцы ў сваю хату, а Віктар Швед ужо ведае, што „будзе яна абавязкова чытаць свайго татулькі вершы”.

А вось „Натальцы стукнула паўгода” і, кажа шчаслівы тата, „мяняе наша малютка свой стан ляжачы на сядзячы”.

І ўжо „патаптала доня годзік”, а ў бацькоў „настрой тым больш прыўзняты — дачушка самастойна ходзіць”.

Зноў свята ў хаце — „Радасць, асалода. Дачушцы Наташы паўтара ўжо года”. А пасля — і два, і тры, чатыры. Наталька стала „ганарыцца, што ў прадшколле з наймалодшымі не ходзіць”.

А тут ужо і пяцігоддзе, і шэсць гадоў — Наталька пайшла ў нулявы клас. Сямігоддзе, і Наталька „кажа: — Я не дзіця, а моладзь”. З вялікім захапленнем ходзіць у школу, дзе вывучаюць беларускую мову. А на сэрцы бацькі цяпло: „Вучыся, мілая дачуся, асвойвай пастаянна веды на славу нашай Беларусі, на радасць маці, бацьку Шведу!”

У жыцці малой Натальгі яе бацька-паэт заўважае кожную праяву яе маленькага свету: пішa пра хлопца, які ёй падабаецца ў прадшколлі, пра новы рукзачок, які купіў ёй „добры татулёк”, пра ляльку, якой Натка не дазволіла глядзець па тэлевізару праграму для дарослых, пра новае піяніна, якое малая пачала асвойваць, будучы яшчэ ў прадшколлі.

Але найбольш узрушаюць Натальчыны пытанні і спасцярогі, выкліканыя яе дзіцячым разуменнем свету. Вось яна абурылася, што ў прадшколлі нехта назваў яе тату дзедкам, і ўжо загадвае тату пабрыцца, бо „пачнуць зваць цябе ў прадшколлі не татулькам, толькі дзедкам”.

А тут здзіўляецца, колькі Святы Мікалай мае сілы: атрымала ж на святы ў падарунку стол пісьмовы! І ўжо Наталька вызначае крэйдай на тратуары шлях з прадшколля дахаты. Здзіўляецца, што ходзіць у нулявы клас, хаця нуль нічога не значыць. Хваліцца бабулі, калі захварэла і перастала хадзіць у прадшколле на занятк і, што ўжо і яна на пенсіі.

„У нашай Наты думак багата”, — сцвярджае Віктар Швед, і мае рацыю, хаця ён — яе бацька. То Натка расказвае дзецям, як ела яна хлябок з кветкамі, а гэта ўсяго зялёнай пятрушкай яе мама пасыпала бутэрброды. То пытае ў мамы, ці татка нарадзіўся ў акулярах, то сцвярджае, што кіпячае малако ў каструлі дыхае, або шчыра па-дзіцячаму раіць тату напісаць верш, што ў яе выпаў першы зубок.

Маланка асацыіруецца ў яе дзіцячым уяўленні з фотаздымкамі („Мама, усміхніся, будуць нас здымаць”), і не можа яна пагадзіцца, што вёска Мора, а вады няма. Раздумвае яна, ці не ўдалося б выпрасаваць прасам бабуліны маршчыны, упэўнена адказвае на пытанне, якая птушка гнёздаў не будуе: „Гэта зязюля, — сказала Наташа, — яе замкнулі ў гадзінніку нашым”.

Я — не паэтка, ды і не літаратурны крытык, дык не збіраюся ацэньваць паэтычныя творы, сабраныя ў кніжцы „Вершы Натальцы”, з мерытарычнага боку. У некаторых з іх заўважаецца аднак, што аўтар, хочучы зарэгістраваць цікавы факт з жыцця Натальгі адразу, „na gorąco”, мо крыху паспяшаўся, зрабіў не ўсё, што мог, для эстэтыкі верша. Здараюцца паланізмы, зусім аднак жа зразумелыя нашым дзеткам.

Але нішто не можа засланіць цеплыню і шчырасць гэтага паэтычнага зборніка. У ім, як жывую, я бачу Віктараву дачушку Натальку.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*

# У Гайнаўскім белліцэі

**24 верасня г.г у II Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы пісьменнік і публіцыст Сакрат Яновіч, галоўны рэдактар „Часопіса” Юрка Хмялеўскі і пісьменнік і галоўны рэдактар мінскай „Маладосці” Генрых Далідовіч сустрэліся з вучнямі і настаўнікамі.**

— Мы падкрэсліваем, што наш ліцэй — беларускі, бо некаторыя намагаюцца гэтаму запярэчыць, — гэтымі словамі, пасля прывітання гасцей, дырэктар Яўген Сачко адкрыў спатканне. — Крыўдна нам, а перад усім настаўнікам беларускай мовы, калі гавораць, што гэта польскі ліцэй. Апрача навучання беларускай мовы, літаратуры і культуры многа тут элементаў беларускасці штодзень.

Сакрат Яновіч, які першым узяў голас, апрача крытычнай ацэнкі падзей на Беларусі, расказаў пра сваё жыццё. Адказваючы на пытанні вучняў гаварыў, што яго ідэал — Пятро Крачэўскі, былы прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі на эміграцыі, які памёр ад голаду, але ісці яго дарогай наш пісьменнік не хацеў бы. Як узор для сябе Сакрат Яновіч бачыць Янку Брыля, які любіць жарт, але не дазваляе, каб нехта яго паніжаў.

Генрых Далідовіч расказаў пра сваю пісьменніцкую працу, звяртаючы ўвагу вучняў на апавяданні пра жанчын, сабраныя ў кніжцы „Жар кахання”. Зараз некаторыя яго творы ўключаны ў школьную праграму „Беларусі”, а за раман „Заходнікі” атрымаў ён Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь. Галоўны рэдактар „Маладосці” расказаў яшчэ пра літаратурныя старонкі свайго часопіса і выдавецкую дзейнасць, якая вядзецца іх рэдакцыяй. Галоўны рэдактар „Часопіса” Юрка Хмялеўскі расказаў пра свой штомесячнік і „Гарадоцкія навіны”, якія нядаўна атрымалі на конкурсе ў Плоньску вылучэнне (адзінае з нашага рэгіёна). Спадар Хмялеўскі заахвочваў таксама вучняў да ўдзелу ў конкурсе „Быць сабою”, які арганізуе рэдакцыя „Часопіса”.

У час сустрэчы назіралася вялікая актыўнасць вучняў, якія ставілі многа пытанняў. Дырэктар Яўген Сачко прапанаваў наладзіць пастаянныя сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, а Сакрат Яновіч абяцаў прад'явіць прапанову літаб'яднанню „Белавежа”.

**Аляксей Мароз**

# Развітанне з летам

Так назвалі арганізатары чаромхаўскі пікнік, які праводзіўся ў нядзелю 20 верасня г.г. побач мясцовага цэнтра культуры.

Мерапрыемства пачалося пасля 14-ай гадзіны. Першымі гледачамі, як заўсёды, былі дзеткі, ды і мерапрыемства арганізавалася з думкай пра нашых малалеткаў.

— Ім таксама ў жыцці нешта належыцца, — гаварыла дырэктар ГОКа Тамара Кердалевіч. — Я запрасіла прадстаўніка кааператыва „Жырафа”, які прывёз з сабою велізарную надзьмуханую рызiнавую жырафу. За адзіныя 2 злотых малечы маглі выскакацца да стомы.

Была цукровая вата і пражаная кукуруза. Можна таксама было купіць за залатоўку каляровы шарык ці каўбаску, якую на пачаканні, па заказу пакупніка, прадаўшчыца перамяняла ў маленькага звярка. Найбольшая чарга выстраілася да цукровай ваты.

Старэйшыя ўдзельнікі пікніка маглі хлебануць глыток халоднага піўца, купіць іншы напітак у бары, які ўладкаваўся ўнутры клуба.

У мастацкай частцы выступілі вулічная капэла Сямёна з Васількова, мясцовая „Чарамшына” а таксама дзеткі з Беластока, якія ў канцэрце прадставілі вядомых замежных спевакоў у іх самых папулярных творах. Канферанс вяла дыктарка беластоцкага радыё „Ярд”. Былі яшчэ конкурсы і... узнагароды. А ўвечары шуганула полымем сапраўднае вогнішча і засквірчэла падпечаная каўбаска. Моладзь гуляла пад гукі папулярных мелодый.

Адным словам — атрымаўся сапраўдны пікнік!

**Уладзімір Сідарук**

# Фолькавыя сустрэчы

Да традыцыі чаромхаўскага ГОКа можна залічыць арганізаванне фолькавых сустрэч у мясцовым асяродку культуры. Суарганізатарам гэтага мерапрыемства з'яўляецца калектыў „Чарамшына”.

Трэцяя сустрэча праходзіла ў суботу 19 верасня г.г. і называлася „З вясковага панадворка”. У канцэрце ўдзельнічала шэсць айчынных і замежных калектываў.

Польскі фальклор прадстаўляў калектыў „Syrbacy” з Гродзіска-Мазавецкага, украінскі „Дэрэво” і беларускі „Фэст”. „Чарамшына” паказала падляшскі фалькор, а калектыў „Widdershins” з Галандыі пазнаёміў прысутных з ірландскай народнай музыкай.

Канцэрт закончыўся выступленнем вроцлаўскага калектыву „Ula Kabała”, які выканаў некалькі кельцкіх твораў.

Зацікаўленне чарамшукоў мерапрыемствам было памяркоўнае, аб чым сведчылі вольныя месцы ў глядзельнай зале. У большасці аўдыторыю складала моладзь.

Прысутныя на канцэрце змаглі паглядзець дзве цікавыя выстаўкі (унутры клуба, побач глядзельнай залы), якія называліся „Пагранічча '98” — фотаздымкі Марціна Скшыпка з Любліна і „Пагранічча '91” — фатаграфіі Ігара Дабко з Львова.

**(ус)**

# Ікона Пакровы Божай Маці ў Пухлах

Узнікненне вёскі і царквы ў Пухлах, распаложанай на правым беразе ракі Нарвы цесна звязана са старажытнай легендай. Праўдападобна пад канец XVI стагоддзя з'явілася там ікона Пакровы Божай Маці. На месцы, дзе цяпер знаходзіцца царква, расло вялікае дрэва (ліпа). У яго цяні ў шалашы жыў хворы чалавек, які пакутаваў ад пухліны. Аднойчы, калі хворы шчыра маліўся, заўважыў на вяршыні дрэва ікону Божай Маці, якая напрыканцы яго-нага зямнога жыцця вярнула яму здароўе. Гэтае месца, ад мясцовай дыялектнай назвы хваробы — *опухлі* — сталі называць Пухламі.

Паводле анамастаў назва Пухлы — гэта родавая назва, якая выводзіцца ад уласнага асабовага наймення *Пухло*, напрыклад, *Томаш Пухлович, сын войта с Тростяницы*. Іншая вестка пра ікону паходзіць з 1911 года. У сённяшніх Пухлах у XV і XVI стагоддзях быў маёнтак. Упраўляў ім „пан", які жорстка ставіўся да сваіх падданых, заганяючы іх ва унію. Прыгонныя сяляне маліліся за захаванне веры сваіх бацькоў і прасілі заступніцтва Божай Маці. Апякунка *(Пакроў)* Маці Божая ў цудоўны спосаб аб'явіла сваю ікону на ліпе на знак, што яна свой народ не пакінула. Гістарычныя крыніцы паведамляюць, што навакольнае праваслаўнае насельніцтва карысталася маленькай царквой у вёсцы Целушкі, якую калісьці называлі *Свяціцелямі*. На месцы цудоўнага Аб'яўлення вернікі пабудавалі новую царкву Пакровы Божай Маці. У XIX стагоддзі згаданага дрэва ўжо не было. Мабыць, цяперашняя ліпа — побач царквы, вельмі высокая і раскідзістая — гэта пасынак колішняга збавіцельнага дрэва.

Захаваная візітацыя царквы ад 1773 г. паведамляе, што царква 30 мая 1771 г., у дзень Божага Цела згарэла з усімі *ozdobami i aperycyami... w cerkwi żadney nie masz aparycyi tylko ołtarzyk bez żadney (akomodacyi) drewniany z obrazem Nayświętszey Panny Częstochowskiej. Ołtarzyk poboczny z obrazem Najświętszey Panny Protekcyi*.

Цяжка сказаць, ці цудоўная ікона Маці Божай, пра якую згадвае візітацыя ад 1773 г., захавалася ў бакавым алтары, ці падвяргалася знішчэнню падчас пажару. Чарговая вестка паходзіць з канца XIX ст. Паводле пісьмовай крыніцы, святая ікона ў пазалочанай рызе з пазалочанымі арабескамі была памешчана ў алтары на горным месцы ў царкве, пабудаванай у 1798 г. Ікона праслаўлялася многімі аздараўленнямі і вялікай ласкай Божай Маці. Доказам гэтаму былі многія ахвяраванні ў выглядзе металічных галоў, сэрцаў, рук, ног з высечанымі датамі 1646, 1710, 1732, 1812, 1830, 1855 гадоў. Шматгадовы настаяцель царквы а. Рыгор Сасноўскі (1842-1893) склаў некалькі рэлігійных песень у гонар Пакровы Божай Маці ў Пухлах.



У „Гродзенскіх епархіяльных ведамасцях", органе Гродзенскай духоўнаці кансісторыі, у 1911 г. было змешчана апісанне іконы. Аўтар адзначыў, што воблік Прасвятой Багародзіцы можна параўнаць да „светлостей солнечных". Ікона, вялікіх памераў, знаходзілася ў алтары. На Пакрову ікона выносілася на сярэдзіну храма па жаданні вернікаў, каб маглі яны пакланіцца Божай Маці. У гэты дзень у Пухлы прыбывалі тысячы паломнікаў, каб памаліцца перад іконай і прыпаднесці ахвяру, нярэдка нават у выглядзе хатняй жывёлы. Гэты рэдкі звычай датрываў да 70-х гадоў нашага стагоддзя. Аўтар апісання з 1911 года адзначыў, што з правага боку ля ўвахода ў царкву (цэнтральная частка) знаходзіўся камень з нечытэльным царкоўнаславянскім надпісам і датай 1710 г. Вядома, што ў той час на Падляшшы лютавала эпідэмія, якая зрабіла вялікае спусташэнне сярод мясцовага насельніцтва. Мабыць, высечаная дата — запіс цудоўнай ласкі Божай Маці. Сёння ў гэтым месцы няма каменя і, мабыць, быў ён скарыстаны ў якасці будаўнічага матэрыялу падчас будовы ў 1913-1918 гадах цяперашняй царквы. Паводле расказаў старажылаў, у час бежанства ікона Пакровы Божай Маці была вывезена ў Расію і вярнулася ў Пухлы ўжо без рызы. Цяпер захоўваецца яна ў сціплым ківоце.

У царкоўным інвентары, складзеным у 1937 г., было напісана: *obraz zaprestolny na gornym miejscu Pokrowa Przenajświętszej Matki Boskiej w rzeźbionej ramie na płótnie o rozmiarach 58 x 87 cm*. Была гэта другая ікона. У кожнай царкве заўсёды бывае некалькі ікон Божай Маці, але звычайна адна з іх ушаноўваецца ў большай ступені. У Пухлах найбольш шанаванай з'яўляецца ікона Пакровы ў ківоце, перад якой падчас багаслужбы гарыць мноства свечак. Цудоўная ікона, памерамі 70 х 145 см, датуецца XVIII стагоддзем. Была яна адноўлена ў 70-х гадах і памешчана ў новым пазалочаным ківоце. Божая Маці на іконе прадстаўлена цэлай постаццю на воблаках і з распасцёртымі рукамі ў акружэнні анёлкаў. На галаве — карона, над ёю — Святая Тройца, а ўнізе надпіс: *Дева днесь предстоит в церкви*. У ніжняй частцы іконы прадстаўлены постаці людзей розных саслоўяў.

Цяпер, так як стагоддзі раней, многія паломнікі падаюцца да Пакровы Божай Маці, каб памаліцца і папрасіць заступніцтва ў Сына, Ісуса Хрыста. Напярэдадні свята служыцца ўсяночная, а затым акафіст перад цудоўнай іконай Пакровы Божай Маці, якая *с лики святых невидимо за ны молиться Богу* накрываючы *честным своим омофором*. Усю ноч адпраўляюцца акафісты і малебны, каб вернікі падчас святой літургіі маглі прыступіць да прычасця.

Можна спадзявацца, што ў надыходзячым Трэцім Тысячагоддзі Божая Маці не пакіне без апекі свой верны падляшскі люд і далей будзе над ім трымаць Свой Пакроў.

**(арс)**

# Сваe сваіх не пазналі

**Адгалоскі**

Калі польскі друк дапускае памылкі ў тытулах праваслаўных іерархаў, гэта можна яшчэ зразумець, але калі робяць іх журналісты „Нівы" — гэта катастрофа. Ада Чачуга („Ніва" ад 6.09.1998 г., с. 1) напісала: „Сёлета літургію ўзначаліў **мітрапаліт** варшаўскі і ўсяе Польшчы **архіепіскап** Сава". Гэта механічнае перанясенне каталіцкага мыслення ў праваслаўе славянскіх краін: правільна пішуць польскія журналісты, напрыклад, „кардынал Махарскі мітрапаліт кракаўскі", бо ў іх рангі ідуць вось так — епіскап, архіепіскап, кардынал, папа, а мітрапаліт звязаны з горадам дык і толькі. А ў **славянскіх** праваслаўных інакш — епіскап, архіепіскап, мітрапаліт, патрыярх.

Архіепіскап носіць **чорны** клобук на галаве, а мітрапаліт **белы**. Першы на грудзях мае адну панагію, г.зн. ікону Божае Маці, апошні — дзве. Калі аўтакефальная царква малая, тады самы высокі ранг — мітрапаліт і ён нікому не падлеглы.

А вось на Беларусі маем мітрапаліта Філарэта таксама з белым клобукам, але ён мае над сабой патрыярха Алексія II у Маскве і чын яго — экзарх, значыць, намеснік патрыярха. Дзеля таго ён не мае поўнае ўлады, хаця меншая ад Беларусі Грузія ганарыцца сваім каталікасам — патрыярхам. Меншая па колькасці жыхароў Балгарыя даўным-даўно ўстанавіла ў сябе патрыярхат. Але ў Грэцыі галава царквы не мітрапаліт, а архіепіскап.

Епіскап над ракой Мухавец мае тытул Брэсцкі і Кобрынскі, а над ракой Пінай — Пінскі і Лунінецкі. Бывае і так, што іерарх карыстаецца так званым тытулярным чынам, значыць, пры ягоным імені ўспамінаецца старажытная епархія, якая ўжо не існуе. У Польшчы, пакуль што, былі такія тытулы епіскапаў: Варшаўскі і Бельскі, Беластоцкі і Гданьскі, Лодзінскі і Познанскі, Вроцлаўскі і Шчэцінскі, Пярэмышльскі і Новасанчаўскі ды Люблінскі і Холмскі. На добры лад патрэбны і епіскапы ў кожным універсітэцкім горадзе, а перш за ўсё ў Кракаве, дзе пасля святога Мяфодзія правілі праваслаўныя Прокульф і Прохар. У такім выпадку трэба было б не адміністраваць епархіяй, а прадстаўляць праваслаўе ў культурным цэнтры.

Нашы журналісты і пісьменнікі блытаюць яшчэ адно: менавіта па-польску „ігумен" гэта „przeor", а „архімандрыт" — „opat". Першы кіруе малым манастыром, а другі — лаўрай або вялікім кляштарам.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Святкаванні ў Брэсце

**„Святкуем сёння 350 гадавіну з дня пакутніцкай смерці змагара за праваслаўную веру і беларускую радзіму святога прападобнамучаніка Афанасія", — гэта словы з пропаведзі Яго Блажэнства ўладыкі Філарэта, мітрапаліта Мінскага і ўсяе Беларусі, які 17 і 18 верасня ўзначальваў багаслужбы ў брэсцкіх цэрквах.**

Афіцыйныя святкаванні пачаліся 17 верасня ў Сімяонаўскім саборы ўсяночнай. 18 верасня ў манастыры святога Сімяона адбылася літургія, у якой удзельнічалі таксама епіскапы з Літвы, Расіі, Украіны і наш епіскап Люблінска-Холмскі ўладыка Авель. Прыехала многа паломнікаў з розных краін, сярод якіх былі паломнікі з Беласточчыны.

Святы прападобнамучанік Афанасій жыў у першай палове XVII стагоддзя. Вядомы ён як манах, змагар за праваслаўную веру. У сваіх лістах-скаргах да польскага караля Уладзіслава IV крытыкаваў насілле уніятаў, якія захоплівалі манастыры і праваслаўныя прыходы. Уніятам і езуітам пагражаў гневам Божым і за гэта многа разоў арыштоўваўся польскімі ўладамі і падвяргаўся катаванням у турмах. Калі не захацеў прыняць уніі пасля здзекаў, з прастрэленай галавой, паўжывы, быў тайком закапаны ў лесе каля Брэста.

— У гэтым месцы, дзе ляжала цела мучаніка Афанасія, зараз знаходзіцца алтар царквы Сімяонаўскага манастыра, — гаворыць прыслужнік Аляксандр.

— Зараз і збыліся словы прападобнамучаніка Афанасія, які прадбачваў, што на месцы пахавання яго параненага цела расцвіце вера праваслаўная, — гаварыў Яго Блажэнства ўладыка Філарэт. — Зараз у Брэсце восем цэркваў, пачынаецца пабудова дзевятай, а дзесятай, мабыць, будзе вялікая царква ў Сімяонаўскім манастыры.

Паломнікі з ваколіц Кляшчэляў прыехалі на аўтобусе. У іх ліку былі шэсць духоўнікаў з благачынным Кляшчэлеўскай акругі айцом Мікалаем Келбашэўскім.

— У вернікаў з Беларусі можна было заўважыць вялікую малітвеннасць, хрысціліся з вялікай пакорай, усе прымалі ўдзел у багаслужбе і толькі пасля літургіі спявалі набожныя песні, збіралі грошы на рамонт царквы. Калі падыходзілі на благаславенне, дык па чарзе звярталіся да кожнага нашага свяшчэнніка, — кажа айцец Славамір Аўксянцюк, настаяцель прыхода ў Дубічах-Царкоўных.

— Я пад вялікім уражаннем ад мноства людзей і паломнікаў. Тут адчуваецца благадаць Духа і відаць адраджэнне праваслаўнай веры, — радуецца Уладзімір Шэшка, паломнік са Старога Корніна. — Вельмі падабаўся мне спеў хору і свяшчэннікаў. Яшчэ ніколі я не быў пад такім уражаннем пасля літургіі. Налічыў больш чым семдзесят свяшчэннікаў, але гэта не былі яшчэ ўсе. Калі я раней прыязджаў, дык і прымалі мяне вельмі ветліва, асабліва айцец Іаан, настаяцель Сімяонаўскага сабора, у якім і свая гаспадарка, свае фрукты і агародніна.

У Свята-Сімяонаўскім манастыры трое манахаў і трое прыслужнікаў. Маюць сваю невялікую гаспадарку, садзяць бульбу, займаюцца агародам. Царкоўка, якая стаіць на месцы смерці мучаніка Афанасія пабудавана была ў канцы XIX стагоддзя. Цяпер яна пабольшана. Невялікі дом не дазваляе прыняць больш манахаў, але ў планах прадугледжана пабудова новага вялікага манастыра ў гонар святога Афанасія.

**Аляксей Мароз**

# Гулялі ў турму

**Пра ссыльны лёс сям'і палоненага ў вайну Аляксандра ГРЫГАРУКА („Ніва" н-ры 37 і 38) расказвае яго дачка Ніна МІНЬКО.**

Нарадзілася я 28 кастрычніка 1939 г. у лясным паселішчы Гнілец, дзе бацька працаваў гаёвым. Бацька мой, Аляксандр Грыгарук, быў тады на вайне, бо 1 верасня быў змабілізаваны ў польскае войска. 10 лютага 1940 г. усё наша паселішча было выгнана на ссылку. Як апавядала мая мама Тэкля, савецкія энкавэдзісты абышліся з намі вельмі жорстка: не дазволілі ёй нават хлеба, які яна канчала акурат пячы, з печы забраць. Маму, мяне, старэйшага за мяне роўна на год брацікa, сем'і леснікоў Лютага і Ахрымюка завезлі на чыгуначную станцыю ў Нараўку, а адтуль разам з сем'ямі леснікоў з Гайнаўкі і наваколля павезлі нас у быдлячых вагонах на ўсход. Умовы там былі жахлівыя, многія не вытрымалі таго падарожжа. Мая мама не ўспявала сушыць пялюшкі, абвівала вакол сябе пялюшкі майго брацікa, а ляснічы Люты абвіваўся маімі, каб хутчэй сохлі.

Завезлі нас у пасёлак Тальменка ў Алтайскім краі. Мама працавала ў лесе. Пакуль я была малая, забірала мяне з сабою, клала пад дрэвам і працавала. Пазней пакідала мяне з братам дома адных; жылі мы ў бараку. З раніцы елі жытнюю муку, а пасля гулялі ў турму. „Турмою" быў сундук: да поўдня сядзела ў ім я, а брат на крышцы — каб я не вылезла, а пасля поўдня ў сундук сядаў брат, а я — на крышку. Але калі нам вельмі хацелася есці, тады мы кідалі тую гульню, капалі хрэн, кускамі на пліце пяклі і так елі; як мама вярталася з лесу, то нас ратавала. Карміла нас зеллем і каранямі. Летам мама збірала брусніцы і чарніцы і вазіла прадаваць іх у Барнаул, каб нам хлеб купіць. Бывала, што вярталася к нам з пустымі рукамі, бо ў дарозе банды нападалі на поезд і рабавалі пасажыраў.

На адзін Вялікдзень елі мы суп з бульбяных лупін. Адзінае яйка мама падзяліла на тры, каб кожнаму з нас па кавалачку. На другі Вялікдзень мама ўсмажыла нам тры вераб'і. Мама ад голаду захварэла на курыную слепату і ледзь нас бачыла, стала слабець. Удалося ёй зрабіць нам лыжы, і мы на тых лыжах ездзілі ў лес памагаць маме.

Калі брату споўнілася шэсць гадоў, пайшоў ён у школу. Старэйшыя дзеці хадзілі ў школу з вінтоўкамі, бо ваўкоў поўна было. Я ў школу не хадзіла, толькі адна пані з Гайнаўкі вучыла мяне дома па-польску. Уся мая адукацыя звялася да двух слоў: *czajniczek* і *miseczka*.

Аднойчы наведаў нас татаў сваяк, дзед Крук з Нараўкі, які тады жыў у Новасібірску. Ён жыў даволі добра і прывёз нам памідоры на пачастунак. Мы пазлазілі з печы і таксама рашылі ўгасціць дзеда:

— А мы пачастуем вас лепшаю ядою — плюшкамі.

Плюшкі — гэта была змерзлая бульба, пралежалая год у полі, якую спляшчвалі, здымалі лупіну і пяклі на пліце. Дзед плюшак не хацеў есці, толькі заплакаў.

У 1946 годзе палякам дазволілі вяртацца ў Польшчу. Хацела ехаць і мама, але яе не пусцілі, бо не запісалася палячкай. Тады яна рашыла пераехаць бліжэй польскай граніцы, каб уцячы як найдалей ад таго там пекла. Дзед Крук нам дапамог і мы пераехалі ў Шклоў Магілёўскай вобласці.

У Шклове руская лекарка Ірына Паўлаўна, як мы толькі прыехалі, пайшла ў саўгас побач горада, у якім жылі адны жыды, і сказала, што нашай маме — бежанцы-палячцы — трэба дапамагчы. І тыя жыды тры месяцы, дзень у дзень, прыносілі нам у горад снеданне, абед і вячэру — хто што мог! А калі дзяцьмі адразу пацікавіўся рускі настаўнік, яны сабралі нам усе школьныя прылады, каб мы толькі ў школу маглі ісці. Тут, у Польшчы, чужымі дзяцьмі ніхто не цікавіцца, а там, бывала, збіраеш засушаныя каровіныя адходы і бярэш у рот, дык першая баба хапае за шыварат і, не пытаючы хто ты, адразу чым мае карміць.

Мама спачатку была прыбіральшчыцай на ільнозаводзе і жыла ў дырэктара Гольдберга, які паходзіў з Беластока; пазней мама памяняла працу. Я, калі хацела паесці, пільнавала ў Гольдберыхі дзяцей. А яна варыла цымес — ялавічыну з морквaю па палове — гэта вельмі смачна пахла! Каб зарабіць на пачастунак, я рукамі лавіла ў хаце мышэй; аднойчы тры мышы злавіла! А Гольдберыха кажа маме:

— Максимовна, она у нас не только за няньку, но и за кошку!

Купіць хлеб было вельмі цяжка. Мама пасылала мяне, малую і худую, да развозчыкаў, а яны мяне разам з хлебам падавалі праз вакенца ў магазін і я першай хлеб купляла.

Я стала слабець ад голаду і адна настаўніца забрала мяне да сябе. У яе была раней дачушка — мая і імянніца, і равесніца, — якую немцы забілі, і праз мяне яна згадвала пра сваё дзіця. У яе доме была школа, а ў пакоі, дзе яна жыла, стаяла печка. Дык яна ў сцяне над тою печкаю выразала дзірку, каб я, седзячы на печы, глядзела на дошку і вучылася. Я прабыла там адну зіму, бо вельмі сумавала па маме.

Аднойчы прыехаў у горад тэатр. Я вельмі хацела пайсці ў тэатр, але не мела білета. Тады я ўціснулася разам з малымі артыстамі, аднак адчувала сябе крыху няёмка без білета і рашыла запрацаваць на яго. Адразу, перад спектаклем, выйшла я перад заслону і прадэкламавала верш пра Леніна і яшчэ нешта, што ўмела. Гледачы апладзіравалі, падняўся шум, дырэктар выбег паглядзець, што дзеецца — злякаўся! А я яму растлумачыла ўсё і ён мяне пакінуў у зале і нават крэсла мне знайшоў; там на дзяцей ніхто ніколі не крычаў.

Мама была вельмі набожнай і ўвесь час стаўляла нас у кут, каб мы маліліся за дзеда і бабу. Хацела нас і ў царкву забраць, але перад царквою стаяла пянераважатая і не пусціла нас:

— Вам, матушка, пожалуйста, а ребятишки — набок!

Калі тата вярнуўся на радзіму з няволі і даведаўся пра наш лёс, адразу распачаў старанні пра наша вяртанне. Старанні тыя доўжыліся тры гады і ў 1950 годзе мы маглі ўжо вяртацца.

Мама абяцала, што ў Польшчы *кушать будем.* А мы ў Польшчу ехаць не хацелі, бо польскай мовы не ведалі; я то яшчэ, але брата сілаю ў поезд укінулі. А на граніцы, калі побач нас загаварылі шлянзакі, дык яго аж у спазмы кінула.

Прыехалі мы на радзіму, у Гарадзіска, на Прачыстую. Я папрасіла дзеда, каб *яичко* выпіць. А ён на мяне:

— Ах ты, камуністко, ты *яичко будешь кушать*!? А будзеш *кушать* як у Расіі!

Аднойчы мяне абскочылі равеснікі і паклікалі ў адну хату — хату майго будучага мужа — і зрабілі трыбуну з табурэтак, каб я ім нешта сказала. Ну дык я ім адразу верш пра Леніна. Калі прагрымелі апладысменты, гаспадыня, пазнейшая мая свякруха, пракаменціравала:

— Пра Леніна, бадай яе халера, сказала, але малітвы то не кажа!

Польскую мову я асвоіла ў школе за месяц. А дома найгорш было назваць бацьку заміж папы — татам.

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

**(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)**
**Частка XVIII**

Беласток увесь быў ахоплены навальным агнём. Навокал ўсё грымела. Зямля стагнала. Пахла ядавітым дымам. Наваколле было зацягнута смугой. Даведаўся я, што 3-я і 10-я савецкія арміі пад Беластокам і сам Беласток знаходзіліся ў нямецкім акружэнні. У Беластоку я адшукаў камендатуру. Вакол будынка камендатуры стаялі і ляжалі параненыя байцы з разбітых ваенных часцей. Да іх прыбывалі ўсё новыя і новыя вайскоўцы. Карціна была жудасная. Я дабраўся да ваеннага каменданта, маладзенькага лейтэнанта, у якога адны суткі выконваў абавязкі пісара. Вёў рэгістрацыю людзей, якія прыбывалі ў камендатуру з разбітых вайсковых часцей. Але на другія суткі, ноччу, каменданта ў камендатуры я не ўбачыў. Яго замяніў нейкі малады сяржант. Я зразумеў, што палажэнне стала катастрафічным, што немцы зараз уварвуцца ў горад. І сапраўды, на досвітку я ўбачыў, як немцы на веласіпедах, з закасанымі рукавамі, з аўтаматамі ўварваліся на вуліцы горада. Становішча было жахлівае. Я добра разумеў, што такое палон, бо я перажыў у першую вайну. Трэба было ратавацца. Мне з адным байцом удалося схавацца ў нейкі склад з дровамі, у якім мы праляжалі двое сутак. Затым ноччу вылезлі і на вуліцы спаткалі паляка, вельмі добрага чалавека. Ён нам сказаў: „Я сам быў у такой сітуацыі. Ідзіце да мяне ў хату". Даў нам есці і дазволіў пераначаваць. Назаўтра сказаў, што больш нас хаваць не можа. Па вуліцах немцы вывесілі аб'явы, што ў каго знойдуць вайсковага ў хаце, то ўся сям'я будзе расстраляна. Паляк даў нам старую вопратку. Мы пераадзеліся і нам пашанцавала выбрацца за горад. Недалёка расло жыта. Мы гэтым жытам дабраліся да глухога хутара. Гаспадар аказаўся беларусам. Ён нас пакарміў жытняй заціркай, даў па кусочку хлеба, дазволіў пераначаваць у хляве.

Назаўтра чуць свет мы ўсталі і добра адпачыўшы рушылі ў небяспечную дарогу. Адышоўшы ад гасціннага хутара, я са сваім сябрам развітаўся. Ён пайшоў у свaім напрамку, а я на ўсход, полем, арыенціруючыся па сонцы. Па дарозе ішлі нямецкія машыны, ехалі табары. Маскіруючыся, прабіраўся да сваіх родных мясцін. Стомлены дайшоў да былога заштатнага горада Адэльска, большая частка будынкаў якога была спалена. Затым дайшоў да вёскі Канюхі. З Канюхаў — да былога мястэчка Індуры. Здалёк убачыў на тэлефонных слупах некалькі павешаных немцамі яўрэяў. Ад Індуры праз жыта я накіраваўся да вёскі Круглікі, у якой жыў мой швагер Антось Рукша. Хаця прайшоў за кароткі тэрмін больш як 80 кіламетраў, блізкасць родных мясцін мне дадавала сілы. Швагер сустрэў мяне здзіўлены: адкуль я ўзяўся ў такі страшны час, як выжыў? Гаспадыня нагрэла вады, я памыўся. Далі мне чыстую бялізну і верхнюю адзежу. У вёсцы Круглікі ўсё насельніцтва было ў трывозе. Немцы арыштоўвалі былых актывістаў, якія былі адданы саветам. Па даносе расстрэльвалі, саджалі ў турмы, вывозілі ў Германію. Швагер Антось Рукша таксама баяўся, каб і яго немцы не арыштавалі, а тут яшчэ і я, чужы чалавек...

Настала лета. Трэба было жаць жыта. Памагаў я швагру ў жніве, звозіў снапы. Пасля перабраўся ў вёску Свіслач, да бацькоў жонкі Зянькевічаў, але ў іх было небяспечна, падкусваў солтыс. Некаторы час я жыў у Гродне, у брата. Затым, каб пазбегнуць вывазу ў Германію, пераехаў у вёску Агароднікі на хутар да дзядзькі Івана Журневіча. Днём працаваў, выконваў розныя гаспадарскія работы, а вечарамі вучыў яго дзяцей. Апошнія месяцы нямецкай акупацыі жыў ізноў у Гродне па вуліцы Манюшкі 21.

*(працяг будзе)*

**Апанас Цыхун**

# Я не ведаў

Я не ведаў, калі ў свет выбіраўся
З маёй вёскі забітай дашкамі
(Мо я крыху, вядома, баяўся),
Што чакае мяне між людзямі.

Дык цікавасць усё пераможа.
Я ж дзіцём усяго начытаўся.
Свет здаваўся мне вельмі прыгожы.
Дык пазней я расчараваўся.

Думаў, горад там лёгка прымае
Усялякага, хто прыпляцецца,
Хто свайго ў свеце шчасця шукае;
Яно ў горадзе, думаў, найдзецца...

Там багацця вялікага вокал —
Яшчэ крыху, ды ледзь не затопіць! —
Не прывыклым пабачыўшы вокам;
Мо і мне яго крышачку хопіць?

Ды чужому тут цяжка прыжыцца,
Чалавечага сэрца тут мала,
Дый не лёгка тут з кім падружыцца...
Што ж мяне гэтак тут прыцягала?

Вось, з бядой папалам, я абжыўся.
Усё ж тут радасці мала чужому.
Жыцця трохі я падвучыўся,
Аднак хочацца вельмі дадому.

Ды мяне там ніхто не чакае...
Быццам я пры дарозе гарох.
Калі новага шчасця жадаеш,
Тады сніцца родны парог.

**„Улас"**

# Дух Белавежы

**Адгалоскі**

Артыкул Ганны Кандрацюк і Юльяна Казберука пра паездку 6 жніўня г.г. у Белавежу і Гайнаўку выдатнага паэта, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Чэслава Мілаша („Ніва” н-р 34) прачытаў я нават два разы. Запрасіла яго ў нашу старонку Таварыства аховы Белавежскай пушчы, якое і прысвоіла яму ганаровае званне „Прыяцеля пушчы”. Гэта пахвальна, што паэт любіць жывую прыроду, бо і я яе люблю. Атрымаў ён ікону св. Герасіма, праваслаўнага заступніка прыроды, а прыхадскі хор праспяваў яму беларускія песні. Чэслаў Мілаш „узрушыўся”, хаця ні словам не пракаментаваў прысутнасці беларускіх акцэнтаў у мерапрыемстве.

Белавежа сустрэла паэта чыста па-беларускаму і ў праваслаўным звычаі, аддаючы яму сваю душу і сэрца; прынялі яго хіба гарачэй, чым калісьці прымалі імператара Мікалая II падчас яго паляванняў.

А ён, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, які нарадзіўся на Віленшчыне і дасканала ведае беларускую мову, і словам не заікнуўся на гэтай мове да тых, якія яго так горача сустрэлі. Што гэта можа абазначаць?

І малое дзіця зразумее, што ён не паклоннік нашай мовы і ганьбуе ёю, так як гэта робяць многія ў нас, а асабліва ў Лукашэнкавай Беларусі. Але дзеля прыстойнасці мог ён сказаць некалькі беларускіх слоў: дзякую вам, дарагія сябры, за вашу гасціннасць. А мо ён, прабачце, заўважыў, падумалася мне, што жыхары Белавежы, у тым і харысты, паміж сабою гутараць па-польску?

І ўспомніў я пра пакойнага мітрапаліта Васілія, чалавека не менш выдатнага за Чэслава Мілаша, які заўсёды ў прысутнасці сваіх землякоў-беларусаў чыста і прыгожа гаварыў па-беларуску. Або пасол Яцэк Курань, хаця паляк, але чалавек чыстага сэрца і стараецца на розных беларускіх мерапрыемствах сказаць хаця некалькі нашых слоў. На жаль, такіх людзей мы сёння можам палічыць на пальцах. І скажу на заканчэнне, што я вельмі расчараваўся візітам Чэслава Мілаша ў Белавежу і яго стрыманымі паводзінамі.

**Мікалай Панфілюк**

# Гадзіншчык з Гайнаўкі

Даўным-даўно звязалі свой лёс з гадзіннікамі Федасевічы — бацька Ян і яго сын Аркадзь з Гайнаўкі. Пасля смерці бацькі Аркадзь атрымаў у спадчыну майстэрню па вул. 3 Мая 35. Дыплом майстра здабыў ён у 1983 годзе.

У майстэрні Федасевіча абнаўляўся м.інш. вялікі нямецкі (са Шварцвальда) шафкавы гадзіннік (2,5 м вышыні) з 200-гадовай „метрыкай”, які званіў кожную чвэрць гадзіны. Шмат гадоў паступалі на рамонт будзільнікі, механізмы якіх складаліся ў зборачным цэху Я. Мастоўскага ў Бельску-Падляшскім і ў такім жа Б. Ліфшыца ў Пружанах (цяпер у Рэспубліцы Беларусь). А не так даўно да гайнаўскага гадзіншчыка прыносілі „Пабеды”, „Вастокі”, „Палёты” і „Молніі” ды жаночыя наручныя „Чайкі”, „Лучы”, „Аўроры” і „Зоркі”. Сёння гэта ўжо рэдкія экземпляры. Рынак напоўніўся электроннымі ды кварцавымі хранометрамі.

У майстэрні знаходзяцца гадзіннікі з адным каменем „Цымэксы”, якія выпускае швейцарская фірма, і з... 30 камянямі таксама швейцарскія „Доксы” і „Раймонд Вэйль”. Цікава іх паглядзець. Трапляюць сюды гадзіннікі з далёкай Японіі, Тайланда і ЗША.

Мой субяседнік цікава расказаў пра тэхнічны прагрэс у галіне вымярэння часу. Даўным-даўно карысталіся сонечнымі, вадзянымі, алеевымі і пясочнымі гадзіннікамі. Між іншым з такой жа мэтай выкарыстоўвалі звычайную свечку. Яна спальвалася і паводле зробленых на ёй насечак вызначалі колькі прайшло часу ды каторая зараз гадзіна. А сёння што маем, кожны бачыць.

**(гай)**

# Добрая і разумная ініцыятыва

**Адгалоскі**

У 38 н-ры „Нівы” за 1998 год быў змешчаны артыкул „Беларусь — 2000 гадоў”. Добра сталася, што сярод нас ёсць людзі, якія клапоцяцца пра нашу Бацькаўшчыну — Беларусь.

Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына” звяртаецца да ўсіх беларусаў свету ўключыцца ў святкаванне 2000-годдзя, незалежна ад іх месца жыхарства і прапануе пабудаваць помнікі нашым слаўным родзічам, якія сваёю дзейнасцю ўславілі наш народ.

Рэалізацыя такой праграмы будзе патрабаваць вялікіх выдаткаў. У сувязі з гэтым прапаную беларускім арганізацыям за мяжой Бацькаўшчыны ствараць камітэты і адкрываць рахункі ў банках для збору фондаў. Гэта маглі б зрабіць Беларускі саюз у Польшчы, БГКТ і іншыя арганізацыі. Прапаную, каб некаторым нашым землякам ставіць помнікі на этнічных беларускіх землях за межамі РБ, напрыклад, Кастусю Каліноўскаму на Беласточчыне ці ў Вільні. Зміцеру Жылуновічу і Аляксандру Чарвякову помнік маглі б паставіць нашы землякі ў Расіі, напрыклад, у Смаленску. Там Жылуновіч узначальваў урад БССР ад 1 студзеня да 3 лютага 1919 г. Гэта, здаецца, пад сілу нашым родзічам у Расіі, паколькі іх там амаль два мільёны.

Будова помнікаў — даволі складаная справа, але калі нашы землякі будуць так згуртаваны як у Літве ці Латвіі, то супольнымі сіламі зможам гэта зрабіць. Яшчэ раз сардэчна дзякую ЗБС „Бацькаўшчына” за вартасную ініцыятыву.

**Францішак Берніковіч**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Скажы мне штосьці нақонт майго сну. Ці прадвяшчае ён мне нешта добрае? Сніцца, быццам іду я па панадворку (дзе жыве мая матуля) на агарод. Побач са стадолай расце агрэст з малымі зялёнымі ягадамі. Пад кустом гняздо, у ім два курыныя яйкі, на краю гнязда — залаты пярсцёнак. Я ўцешылася і падумала, што гэта мой другі пярсцёнак, які я купіла (а купіла).

Падняла я яйка і бачу, што яно абклеенае крэмовай упаковачнай паперай. Другое — таксама, толькі чубкі відаць. Я ўжо далей не ішла. Пайшла назад, аглядаючыся. У руках несла кіслы агурок і вараную моркву. Агурокываліўся з маіх рук і яго з’ела малая дзяўчынка.

Пасля я была на суседнім полі і там знайшла манеты, адвернутыя арлом уверх: пяць злотых і некалькі залатовак. Я была гэтаму вельмі рада.

**Каміля**

Каміля! Твой сон даволі цікавы, дык, думаю, варта над ім крыху прызадумацца.

Хаця сон не вельмі доўгі, то ёсць у ім шмат элементаў, якія ў асноўным абазначаюць, што справы твае пойдуць у добрым напрамку. Будуць пры гэтым і некаторыя цяжкасці.

Мяркуеш ты і сама някепска, лічачы, што сон можа прадвяшчаць нешта добрае. Табе снілася, што ты ідзеш на агарод і побач са стадолай расце агрэст з маленькімі зялёнымі ягадамі. Памятай, што агарод прадвяшчае здароўе, поспех і спаўненне мараў. Ды і ягады гэта поспех у справах.

Пад кустом агрэста ты ўбачыла гняздо. Гняздо абазначае набыванне маёмасці, радаснае і спакойнае жыццё. Іншая справа — калі б ты ўбачыла гняздо з мёртвымі птушкамі. Тады сон мог бы прадвяшчаць страту маёмасці, беднасць.

Табе ў гэтым гняздзе ўявіліся, на шчасце, не мёртвыя птушкі, а курыныя яйкі, якія наадварот, абазначаюць адраджэнне, аднаўленне, прыбытак ці прырост у сям’і, а наогул — задавальненне і радасць.

Той пярсцёнак, што ляжаў на краю гнязда (ты не пішаш, які ён быў), калі не быў абручальны, а з вочкам — дык можа абазначаць, што побач з тым прыбыткам могуць праявіцца нейкі фальш і залежнасць. Але так заўсёды бывае.

Калі ты вярталася, то ў руках несла кіслы агурок і моркву, а гародніна (асабліва морква) прадвяшчае поспех у каханні (ты не пішаш, у якім ты ўзросце, а магчыма ж гэта і ёсць для цябе якраз галоўная справа).

Пасля ты была на суседнім полі, а поле, як і агарод, прадвяшчае поспех у справах і гаспадарцы. Ну, і застаюцца манеты, якія ты знайшла на полі. Новыя манеты абазначаюць крыху клопатаў, але хто іх не мае. Старадаўнія манеты абазначалі б неспадзяванае багацце.

**Астрон**

# Будзе больш бяспечна

Адным з пастулатаў жыхароў вуліцы Длугай у Чаромсе была перабудова праезда (і вуліцы) на адрэзку спалучэння з Вішнёвай. Вузкі праезд і абрывісты роў насупраць чыгуначнай станцыі заўсёды стваралі пагрозу дарожнага выпадку ў зімовую пару (ды не толькі!). Пра тое пісала ўжо „Ніва”, але ўсе маўчалі: і радны з гэтай акругі, і гмінныя чыноўнікі. Зараз перад выбарамі ў мясцовыя самаўрады нешта заварушылася!

Пачалася перабудова (пашырэнне) праезда. Значыцца, праблема рашаецца. Не ведаю толькі, чыя гэта заслуга. На маю думку, гэта зараз не такое ўжо і важнае. Асноўнае, што будзе больш бяспечна.

**(ус)**

**Увага, драмгурткоўцы!**

# ГДК запрашае

Гайнаўскі дом культуры па вул. Беластоцкай 2 запрашае моладзь сярэдніх школ на заняткі ў драмгуртку. Будуць праводзіцца заняткі па міміцы і жэстах, сцэнічнай ігры ды інтэрпрэтацыі тэксту, а таксама азнаямленне з рознымі формамі тэатра і падрыхтоўка спектакля на аснове любімых твораў.

Дэталёвую інфармацыю можна атрымаць па тэлефону: 682-32-03 або 682-48-08.

**(гай)**

# Дзве выстаўкі

У Музеі ў Бельску-Падляшскім па вуліцы А. Міцкевіча 56 адкрылі дзве выстаўкі: „Верасень 1939 года ў Бельску-Падляшскім” і „Пушчанскі пейзаж”. Першую састаўляюць, між іншым, вайсковыя мундзіры, дакументы і зброя. На фотавыстаўцы „Пушчанскі пейзаж” экспануюцца здымкі Белавежскай пушчы аўтарства Войцеха Пацэвіча з Нараўкі, Юркі Вуйціка з Гайнаўкі і Мар’юша Юзвіка з Чарлянкі пад Белавежай.

Экспазіцыі адкрыты ў Музеі ад аўторка да нядзелі ў гадзінах $10^{00}$—$17^{00}$.

**(гай)**

***Ніва***, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка




*Мал. Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА*

## Ідалы

Памяркоўнасць старасць нараджае, —
Так гаворыцца ў святых пісаннях,
Але рознае мы бачым і чытаем,
Калі старцы зноў першыя страляюць,

Узахлёб язгочучы пра помсту,
Забыўшы быццам, хто вятры пасеяў,
Пад патрэпаным сцягом і Матку Боску
Зробяць апякункай фарысеяў,

Аўтарытэтам стаўшы пажыццёва,
І кніжныя лісты зліваюць ядам.
Сівавалосыя шаноўныя галовы
Прарочаць новыя галавапады.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. ліпкі сок хваёвых раслін, 4. разнастайнасць ідэй і форм дзейнасці, 6. дзяржава з Янгонам даўней, 7. яўрэйская абшчына, 9. Джон, амерыканскі астранаўт, які разам з Т. Стафардам і Ю. Сернанам на „Апалоне-10" дваццаць дзевяць гадоў таму лётаў у напрамку Месяца, 11. Томас, амерыканскі астранаўт, які разам з Дж. Янгам і Ю. Сернанам у маі 1969 г. зрабіў 31 віток вакол Месяца, 12. захопнік, 13. зяць Мухамеда, 15. расліна сямейства акантавых, 17. духавы музычны інструмент, 18. Ніл, першы чалавек на Месяцы (нар. у 1930 г.), 19. украінскі абласны горад.

**Вертыкальна:** 1. Юры, першы чалавек у Космасе (1927—67), 2. моцны холад, 3. бясколернае, смярдзючае злучэнне азоту з вадародам, 4. выраз, які апісальна перадае сэнс другога выразу, 5. порт на Лабе, сталіца Саксоніі-Ангальта, 6. была на Ворскле і на Касавым Полі, 8. вялікая французская рака, 9. ежа, 10. Грамадзянская аўтадарожная інспекцыя, 14. польска-беларускі зборнік апавяданняў Саграта Яновіча, 16. характэрная афарбоўка гуку, 17. не расце на вытаптанай дарозе.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 35 нумара**

**Гарызантальна:** квант, Краўчанка, смага, ацтэк, газ, бадзяга, шахматы, два, Асвея, завод, Цімашэвіч, налік.

**Вертыкальна:** гарчыца, кража, танга, Клаўзевіц, Артымовіч, скала, катод, гад, ЗША, Войшалк, язмін, зявок.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## Зачараваны Ясё Жаба

Меў грамадзянін Кароль Уладзімір Міхайлавіч, пражываючы ў вёсцы Б. Міхалоўскай гміны, гаспадарку добрую і тры дачкі, што не знойдзеш такіх у трыдзевятай рэспубліцы, у трыдзесятай гміне: і харошыя, і вучоныя. Такія дзеўкі — скарб у вёсцы, цяжэй — бацьку, бо ж кожнай трэба пасаг даць. Але пасаг Уладзіміру Каралю не страшны, абы дзеўкі добра выбралі: каб то хлопцаў добрых, багатых і здаровых, каб лягчэйшае жыццё мелі...

А дзяўчаты ніяк замуж не выходзілі. І ў школах вучачыся, і на забавах гуляючы — не трапляплі на любага сабе сэрцу ці каб татку падабаўся. Рашылі бацькі прымяніць традыцыйны спосаб: страляннe з лука, каб упалявацъ таго каго трэба.

Стрэліла старэйшая Валянціна — трапіла ў Бельск, у сына купецкага. Стрэліла сярэдняя Хрысціна — трапіла ў Беласток — у сына баярскага, капітаніча. Стрэліла Людміла — ці то прамахнулася, ці то не туды заглядзелася, — паляцела страла над былыя Нарваўскія падрэчкі, у кустоўе і багнішча. Пабегла Людміла, падабраўшы спадніцу, па асацэ, па мяце, а на купіне сядзіць зялёная жабка, трымае ў лапках ейную стралу!

— Аддай, жабо, маю стралу!

— Ні аддам табе стралы, дзеўчыно, — праквакала жабка. — Стрэльнула, то мане бары. Буду тваім чалавеком.

— Гэтаго быць ні можэ. Ты ж — жаба, а я — баба.

— Але дагаварыцца можэм па-просту. Яшчэ мане пацалуй, то ў хлопца зманюсэ. І ўсё будзе рыхтык. Бо стралы ні аддам, калі ні пацалуеш. Што скажэ бацько? Ну, цалуй!

Заплюшчыла Людміла вочы, зморшчыла нос — не пакажацца ж без стралы ў хаце....

Стрэльнула, пыхнула, засмярдзела — стаіць перад Людмілай хлопец гадоў 25-30, стройны, высокі, чарнявы! З выгляду — такі, як у снах і бачыла дзеўка. Толькі што ў чобатах, у джынсах парваных, у кашулі айчыннай прадукцыі, да таго ж свіціцца яна, такая пацератая... Але праз старую матэрыю прабіваюць моцныя валасатыя грудзі... Робіць ураженне на Людміле кавалер перавернуты з жабкі, хай бы зрабіў і на бацьку...

А вось і бацьку спадабаўся, бо думаў быў ужо стары, што гаспадарку не будзе каму пакінуць. Прыняў Яся Жабу ў прымы, падвучыў гаспадарыць, і мае цяпер во як добра! А прыедуць дочкі з зяцямі — страсяне рукавамі Людміла — і на сталах усягонечка, ні перапіць, ні пераесці! Не трэба Каралю Уладзіміру ні свінні-самарыйкі, ні каня-самалёта, ні абруса-самабранкі — Ясё Жаба ўсё дабудзе, такі майстар на ўсе рукі, не мусіць нікому даказваць што лепшага няма ў вёсцы! Толькі цягне час-часом над Нарву Яся Жабу, от, натура такая... Каб хоць рыбы якое налавіў, а то сядзіць на беразе, у ваду ўглядаецца. Дзівацтва зусім няшкоднае. Горш было б, каб меў Ясё Жаба цягу не да вады, а да гарэлкі.

**Кукша**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Пасля вяселля цесць звяртаецца да зяця:

— Веру, што ажаніўшыся з маёю дачкой, пасталееш і перастанеш рабіць дурноты.

— Безумоўна; гэтая была апошняю.

* * *

— Што думаеш пра таталётак?

— Гэта цудоўная выдумка!

— Няўжо ўдалося табе выйграць?

— Не, але таталётак даказаў маёй жонцы, што і яна можа памыляцца.

* * *

Муж жонцы:

— Нешта, дарагая, не найлепш выглядаеш. Нешта табе дакучае?

— Безумоўна. Худзею ад турботы...

— А пра што турбуешся?

— Што патаўсцею.

* * *

— Дзе ты пазнаёміўся са сваёю жонкай?

— На скалалажанні ў Альпах.

— Праўду людзі гавораць, што альпінізм гэта небяспечны спорт.

* * *

Пані Кавальска спатыкае на шпацыры сяброўку ў жалобе, якая пасля аўдавення нядаўна паўторна выйшла замуж.

— Зноў няшчасце: і другі ваш муж памёр?

— Не, ён адчувае сябе выдатна.

— Дык адкуль гэтая жалоба?

— Пасварылася ўчора з ім, і мне так стала шкада першага, што надзела жалобу.

* * *

— Вітаю цябе, шчаслівчык! Дачуўся я ад знаёмых, што канікулы правёў ты ў Іспаніі з прыгажуняю, якая аплачвала ўсе твае рахункі.

— Гэта праўда, толькі з агаворкаю, што плаціла яна іх з майго кашалька.

* * *

Прымадонна капрызнічае перад спектаклем:

— Жадаю, каб каралі, якія трэба будзе мне насіць у першым акце, былі з сапраўднага алмазу.

— Згода! — адказвае рэжысёр, — толькі з тою ўмовай, што і іншыя рэквізіты будуць сапраўдныя, напрыклад атрута, якую выпіваеце ў апошнім акце...

* * *

— Маруся, ці твой нарачоны прывабны?

— Яшчэ як! Па маці мае сінія вочы, а па бацьку раскошны асабняк і „Мерседэс".

* * *

— Зусім не разумею, — звяртаецца жонка да мужа, — што мужчыны бачаць у той Кім Басінджэр. Калі б забраць ад яе той прыгожы твар, бюст, ногі — дык што ж з яе застанецца?

— Ты, каханая.

* * *

— Што чуваць у цябе, Мішка?

— Жонка захварэла ды ляжыць у бальніцы, а маім домам цяпер займаецца цешча, якая прыехала на час жончынай хваробы.

— Праўду людзі кажуць, што няшчасці парамі ходзяць.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Уяві сабе, што прыдумала я спосаб на рэзанне цыбулі без слёз.

— Цудоўна! Як гэта робіш?

— Бяру ножык, цыбулю і клічу мужа, каб яе парэзаў.